— *Каго любіш?*

— *Люблю Беларусь!*



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

27 СНЕЖНЯ 1996 г. № 52 (3876) Кошт 2 500 руб.





# З ВЕРАЙ У ЛЕПШУЮ ДОЛЮ

Ёсць жа на свеце шчаслівыя людзі (і шчаслівыя народы!), якія на парозе Новага — маладога! — года з добрым, радасным і шчымлівым адначасова, смуткам падымаюць чарку найперш за год стары. А як жа інакш?! Гэта ж ён, стары год, даваў людзям веру і надзею, сілу і моц для ўпэўненай хады ў год наступны, пракладваў цубкія сцежкі і роўныя, гладкія дарогі ў будучыню. І з удзячнасці за гэта людзі (і народы!) кажуць старому году на развітанне ціхае, ласкавае слова; кажуць з надзеяй на тое, што год наступны, які ступае на сцяжыны і шляхі старога, не зробіць іх вузкімі і калдобістымі, а шырэйшымі і гладчэйшымі. Шчаслівыя тыя людзі!

У нас жа — усё не як у людзей. І сёння, на сумежжы гадоў, настрой у нас, шаноўныя лімаўцы, дарагія нашы чытачы і прыхільнікі, зусім, на жаль, не святочны. І не мажорны нават. Мінорны ў нас з вамі настрой, калі не сказаць — журботны, сумны, горкі. З гэткім жа настроем праводзілі мы ў нябыт і год леташні — 1995-ы. Абодва яны — і леташні, і сёлетні — упісаны ў нашу гісторыю чорнаю фарбаю. Фарбаю смутку і жалобы.

Кажучы гэтак, мы з вамі маем на ўвазе, вядома ж, ганебныя — мякчэйшае слова знайсці, бадай, цяжка! — рэферэндум: майскі леташні і лістападаўскі сёлетні. Першы адабраў у нашай адроджанай у другі раз дзяржавы спрадвечныя нацыянальныя сімвалы — бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоню" і асудзіў на вынішчэнне нашу мову. Другі зліквідаваў яшчэ кволыя парасткі нашай маладой дэмакратыі, адкрыў дарогу дыктатуры, зрабіў рэальнай пагрозу дзяржаўнасці Беларусі, яе незалежнасці і суверэнітэту, актывізаваў ворагаў беларушчыны наогул.

Вось тут і азірніся на сумежжы гадоў на год пражыты! Не хочацца на яго азірацца, дарагія сябры. Позірк наш міжволі сягае трошкі глыбей, у год 91-ы, 92-і, калі ў выніку распаду ленінска-сталінскай імперыі на карце свету зноў адрадзілася Рэспубліка Беларусь, спадкаемца слаўнай Беларускай Народнай Рэспублікі, калі над вернутай народу імклівай "Пагоняй" зноў залунаў наш чысцюткіх бел-чырвона-белых колераў сцяг, што лунаў над ёю яшчэ ад часоў Грунвальда, а мо і раней. Незалежная Беларусь нарадзілася! Смела, актыўна, годна пайшла ў свет займаць "свой пачэсны пасад між народамі" Ачнуліся, збудзіліся ад летаргіі яе сыны і дочкі, адгукнуліся на покліч Бацькаўшчыны, памкнуліся да вялікай і нялёгкай працы дзеля яе адбудовы.

Ды забыліся мы, што семдзесят з гакам гадоў бальшавіцкага панавання не былі марнымі, што змены ў народзе адбыліся не толькі колькасныя, але і якасныя, і не ў лепшы, на жаль, бок, што шырока разлілася і запанавала люмпенская ідэалогія. У выніку людзі нашы лёгка паддаліся дэмагогам, цынікам, хлусам, балбатунам, пакваліліся на пустыя абяцанкі. Людзей, найперш старэйшага веку, запаланіла настальгія па "шчаслівым савецкім жыцці", па "таннай кілбасе" і "бясплатным жыллі" Вось і вярнуліся да ўлады колішнія савецка-партыйныя наменклатуршчыкі, толькі трошкі ніжэйшага, раённа-абласнога ўзроўню, выхаванцы партыйных і камсамольскіх школ ды сельгасакадэмій, — не надта шляхетныя, не надта высокага інтэлекту і не надта цвёрдых маральных прынцыпаў. Але затое — надта ж вялікія (большыя за ранейшых!) "інтэрнацыяналісты", "аб'яднальшчыкі" і "злівальшчыкі", а калі па-цяперашняму — "інтэгратары" Але затое — вялікія "змагары" за "стабільнасць у дзяржаве", за "спакой і адзінства ў нашым агульным доме"

Ці трэба казаць, дарагія сябры, што ўсе мы не менш за "змагароў" заклапочаны стабільнасцю, спакоем у нашым доме. Толькі ж — у якім доме? У Беларускім Доме, ці ў "Белорусской губернии" Расіі? Хто ў гэтым доме будзе гаспадар? Беларус, "зямлі і неба валадар", ці пыхлівы пан-прыблуда, што літасціва будзе дзяліць сваю ўладу з тутэйшымі манкуртамі і янычарамі? Вось у чым пытанне, як той казаў.

Без адказу на гэтае пытанне не надта шмат сэнсу разаважаць над іншымі пытаннямі, што тычацца лёсу так званай "пераходнай тэрыторыі", як сёй-той называе сёння Беларусь. Эканоміка краіны ўсё яшчэ падае ў прорву, ці ўжо "дасягнула" дна? Як яна

*(Працяг на стар. 2)*



# КОЛА ДЗЁН

***Напрыканцы 1996-га года можам паспрабаваць супакоіць сябе: нічога, былі на Беларусі (для Беларусі) і горшыя гады. Пэўна ж, былі. Але выстаяла яна, захавала сябе, і тое, што пакуль яшчэ словы гэтыя пішуцца і надрукаваны па-беларуску, таму сведчанне. Што будзе далей, як будзе далей, ці збераэжом мы, сённяшнія беларусы, спадчыну, што пакінулі нам дзяды? Думаецца, нават самыя закончаныя песімісты і тыя не сумняваюцца — зберажом! Але колькі будзе доўжыцца на Беларусі (для Беларусі) гэтае новае выпрабаванне? Ніхто не адкажа, ніхто не возьмецца прадказаць. Бо надта ж непрадказальны наш народ і гэткі ж яго першы прэзідэнт. Зрэшты, прыгадваецца адна беларуская показка: бацька хваліцца, што ягоныя сыны заўсёды дакладна ўгадваюць, якое надвор'е будзе заўтра. Якім чынам? Адзін кажа: будзе дождж, другі кажа: будзе ясна. І адзін з іх абавязкова ўгадвае... Тое ж можна сказаць і пра нашую перспектыву: з аднаго боку, не можа доўга цягнуцца бязладдзе ў краіне, з другога боку, наш народ можа цярпець нястачы гадамі... Тым болей, што дзеля таго, каб змяніць нешта, сёлетняй восенню магло б хапіць 100 тысяч менчукоў на пляцы Незалежнасці, а гэтаю вясною ўжо можа мала быць і мільёна...***

## "ЮБІЛЕЙЧЫК" ТЫДНЯ

20 снежня ў беларускім календары з'явілася яшчэ адно свята — дзень супрацоўніка органаў дзяржаўнай бяспекі. У гэты дзень, 79 гадоў назад, была ўтворана сумнавядомая ВЧК (НКУС, МГБ, КГБ...). Здавалася б, камітэт дзяржаўнай бяспекі незалежнай Беларусі павінен быў дыстанцыявацца, трымацца падалей ад той "слаўнай" гісторыі "слаўных" органаў. А тут такая шматзначная "прывязка"... Дарэчы, шараговая, звычайная, 79-я гадавіна святкавалася чамусьці, як адметнейшы юбілей, з удзелам самога прэзідэнта. А гэта азначае: прыярытэты вызначаны...

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Мусаліні ўзначальваў фашысцкі ўрад у Італіі з 1923 па 1945 год. Партугальскі дыктатар Салазар кіраваў з 1932 па 1968 год. Стрэснер цараваў у Парагваі з 1954 па 1989 год. Сямейства Самосы кіравала Нікарагуа з 1934 па 1979 год. Генерал Франка быў дыктатарам у Іспаніі з 1939 па 1975 год. Каддафі кіруе ў Лівіі з 1969 года. Хусейн — у Іраку з 1970 года. Генерал Тан Шве ўмацаваўся ў Бірме ў 1992 годзе. Гітлер, праўда, пратрымаўся ўсяго 12 гадоў. Але затое ён паваяваў... Рысы рэжыму, які сёння складваецца ў Беларусі, ужо праглядваюцца... Вельмі хутка ў аналітыкаў з'явіцца магчымасць,адкінуўшы штампы кшталту той жа "дыктатуры", "таталітарызму", "фашызму", у больш дакладных і тонкіх выразах ахарактарызаваць нашую сітуацыю"

*(З артыкула Сямёна Букчына "Ужо не Польшча, яшчэ не Расія..." у "Народнай Волі", N 120).*

## ПАРАЛЕЛІ ТЫДНЯ

Хочаш не хочаш, але сочачы за снежаньскімі падзеямі ў Югаславіі, прыгадваш лістападаўскія дні на Беларусі. Падабенства ёсць, — хоць супрацьстаянне галінаў улады на Беларусі не перарастала ў супрацьстаянне ўладаў і народа, як у Югаславіі. Але, бадай, самае галоўнае адрозненне ў тым, што ў нас супрацьстаянне скончылася ў дзень выбараў і рэферэндуму, а ў Югаславіі яно пачалося толькі пасля выбараў, а самае галоўнае падабенства ў тым, што і ў нашым выпадку, і ў югаслаўскім практычна ўсе дзяржавы свету асудзілі антыдэмакратычныя дзеянні ўладаў, а з абаронай "нью-дыктатараў" выступіла толькі Расія, толькі Масква...

## ПРАЕКТ ТЫДНЯ

На мінулым тыдні па ўсіх газетах краіны прайшла інфармацыя пра новыя планы будаўніцтва на Беларусі атамнай электрастанцыі. Міністр паліва і энергетыкі В. Герасімаў паведаміў, што ўжо абследавана 70 раёнаў рэспублікі з мэтай "прывязкі" АЭС, і, паводле патрабаванняў МАГАТЭ, выбраны тры месцы, якія знаходзяцца ў Дубровенскім, Быхаўскім і Шклоўскім раёнах. Кошт праекта 3,5—4 мільярды долараў... Безумоўна, "Чарнобыльскі сіндром" грамадзянам Беларусі трэба пераадольваць. Рана ці позна, але краіна, якая не мае таннага паліва і карысных выкапняў, дзеля захавання самастойнасці і змяншэння залежнасці ад суседзяў давядзецца займець уласную АЭС, і, магчыма, не адну. Альтэрнатывы тут няма. Тым болей, што — ваўкоў баяцца, у лес не хадзіць: Беларусь і так з усіх бакоў акружана АЭС, якія стаяць ледзь не на яе тэрыторыі (Чарнобыльская, Ігналінская, Ровенская, Смаленская...). Іншая справа, што ўзнікае пытанне: чаму так атрымалася? Адказ на гэтае пытанне не такі просты, як здаецца на першы пагляд...

## ПАДАРУНАК ТЫДНЯ

Напярэдадні Новага года парк асабістага транспарту прэзідэнта Беларусі папоўніў яшчэ адзін верталёт. Чацвёрты за гады прэзідэнцтва (два дасталіся яму ў спадчыну ад В. Кебіча і адзін сёлета выкупіў А. Лукашэнка ў тады яшчэ міністра абароны Расіі П. Грачова). Кошт навагодняга падарунка падаткаплацельшчыкам краіны — больш за 4 мільёны долараў.

## ВЫНІК ГОДА

Freedom House — міжнародная арганізацыя, якая займаецца даследаваннем дэмакратычных працэсаў у свеце, у сваёй справаздачы за 1996 год выключыла Беларусь з шэрагаў "часткова свабодных краін" і залічыла да катэгорыі "несвабодных краін" Прычына — пагаршэнне стану правоў чалавека і палітычнай атмасферы ў нашай краіне "ў выніку кіравання ўсё больш тыранічнага прэзідэнта Лукашэнкі" — паведамляе газета "Свабода" (N 97). Дарэчы, з былых рэспублік СССР цалкам свабоднымі лічацца толькі краіны Балтыі, часткова свабоднымі — Арменія, Грузія, Малдова, Расія і Украіна. Еўрапейская дзяржава Беларусь трапіла ў кампанію сярэднеазіяцкіх краін: Кіргізстан, Туркменія, Узбекістан, Казахстан, Таджыкістан, Азербайджан... Ужо гэта выглядае штучным і ненатуральным. І пакідае надзею, што "бульбашызм".— з'ява нежывучая, нетрывалая, дае падставы спадзявацца, што змены будуць. І хутка.

**P. S.** У Новы год — са старымі надзеямі, са старымі жаданнямі ідуць беларусы. Усе. Незалежна ад таго, падтрымліваюць ці не падтрымліваюць яны свайго першага прэзідэнта. Бо 1996-ы год не спраўдзіў надзей ні першых, ні другіх. Не стала нам жыць лягчэй, спакайней, заможней, незалежней... У рэшце рэшт, усе мы людзі і, безадносна ад палітычных перакананняў, прагнем толькі аднаго: шчасця, міру, дабрабыту на роднай зямлі. Дык хай жа 1997-ы год спраўдзіць нашыя надзеі! З Новым годам!

# НАВАГОДНЯЯ МАЛІТВА

**Дай, Божа, каб снегам палі завaліла**
**І елка у кожнай кватэры жыла,**
**Каб зябкім шампанскім, але не "чарнілам",**
**Напоўнена кожная чарка была.**
**Каб выдалі ўсім і аванс, і зарплату,**
**Каб кожнай карове падвезлі кармы,**
**Каб шчасце наведала кожную хату**
**І кожны куток, дзе сабраліся мы.**
**Дай, Божа, не страціць у будучынь веры,**
**Над кожным рублём не мазоліць свой лоб,**
**Дай, Божа, дастукацца ў кожныя дзверы,**
**Да тлушчам налітых дзяржаўных асоб.**
**Дай, Божа, у дзецях убачыць надзею,**
**Што нам яны шчасце усё ж прынясуць.**
**Дай, Божа, паменш палітычных завеяў,**
**А снежныя хай толькі ўзімку мятуць.**
**Дай, Божа, прыроду не крыўдзіць так часта,**
**І рыб, і звяроў берагчы, як дзяцей,**
**Дай, Божа, каб менела ў цэнах кантрастаў,**
**І большала колькасць сумленных людзей.**
**Дай, Божа, не ведаць Чачні і Афгана**
**І цынкавых трун не праводзіць з двара,**
**Дай, Божа, ніколі дзяржаўных падманаў**
**Па-рабску не славіць прадажным "ура".**
**Дай, Божа, у кожную кніжную краму**
**Вярнуць і Купалы, і Танка парад,**
**З паліц пазмятаўшы на сметніцу прама**
**Заморскіх напояў смярдзючасць і чад.**
**Дай, Божа, сцягі не мяняць, як пальчаткі,**
**І людскія гімнавы словы пачуць,**
**Дай, Божа, пабольш у краіне парадку,**
**Сябе беларусамі ўрэшце адчуць.**
**Дай, Бог, каб святло не ў зеўры тунеля**
**Гарэла падманна дзесяткі гадоў,**
**А тут, каля нас, ля Іванаў, Анэляў**
**Шугала увысь без даляравых дроў.**
**Дай, Божа, пражыць новы год без трывогі**
**І зрушыць вялікае працы гару,**
**Дай, Божа, не збіцца з галоўнай дарогі —**
**Тады ачуняе мая Беларусь.**

**Уладзімір ВЕРАМЕЙЧЫК**

Імпрэзы

# "БЕЛАРУСКІЯ КАБЕТЫ, ГЛЯНЬЦЕ ВОБРАЗ ГЭТЫ МІЛЫ..."

1996 год адметны сярод іншага і актыўнасцю жаночых арганізацый. Працягам Першага жаночага кангрэса, што адбыўся восенню, стала навуковая канферэнцыя "Вытокі жаночага руху на Беларусі: гісторыя і сучаснасць" Арганізавала яе нацыянальна-гістарычная камісія Усебеларускага фонду святой Ефрасінні Полацкай.

Сапраўды, калі існуе з'ява — хай сабе і перапыненая савецкім часам, — то чаму б не прасачыць за яе фарміраваннем і развіццём? Удзельнікі канферэнцыі найперш зрабілі агледзіны жаночых шэрагаў — тых славутых постацей, якімі мог бы ганарыцца любы народ. Сярод іх дзве знакамітыя палачанкі — Рагнеда і Ефрасіння. Першая стала ўвасабленнем сілы духу, адданасці свайму роду (яна падобна да гераінь скандынаўскіх сагаў), другая прысвяціла сябе Богу і ўвайшла пасля смерці ў пантэон праваслаўных святых (даклады Т. Гаранская і Г Запартыкі).

У станаўленні беларускай культуры і нацыянальнай самасвядомасці адметную ролю сыграла пісьменніца-рэвалюцыянерка Цётка (Алаіза Пашкевіч) (даклады В. Максімовіча, С. Панізніка). Старшыня фонду В. Коўтун расказала пра цікавыя старонкі яе біяграфіі, пра сваю архіўную працу пры стварэнні рамана "Крыж міласэрнасці"

"Жалезная лэдзі рэвалюцыі", на думку Максімовіча, спавядала "містычны анархізм", разумела рэвалюцыю як сімвал абнаўлення жыцця. "Хутка скончым мы свой сон", — сцвярджала паснярка, чые творы служылі не уласна-мастацкім, а сацыяльным задачам таго часу. "Пяшчотная бландзінка" з хрыплым голасам, статная і валявая, па успамінах сучаснікаў, вучылася ў Львове і Пецярбурзе (у тым ліку фехтаванню), а на экскурсіі ездзіла ў Вену. Усюды пачувала сябе лёгка і добра, паводзіла дэмакратычна, гаварыла, што думала. Ці не пашкадавалі яе вышэйшыя сілы, забраўшы рэвалюцыянерку напярэдадні рэвалюцыі? Не выключана, што яе спасцігла б доля эсэркі Палуты Бадуновай (даклад В. Лебедзевай).

Падзвіжніцамі, пакутніцамі, "дзекабрысткамі без Сібіры" былі ці не ўсе жонкі нашых адраджэнцаў (даклад З. Шыбекі). Жонка Язэпа Лёсіка Ванда Лявіцкая (даклад У. Содаля) скажа пасля, зведаўшы пекла "ГУЛАГа"· "Я рабіла ўсё, што патрабаваў час"

А. Мальдзіс зрабіў кароткі, але змястоўны экскурс у гісторыю літаратуры: хто ж быў у ёй да Цёткі? Ён спыніўся на незвычайным жыцці Саламеі Русецкай (Пільштыновай), чый авантурны раман ствараўся па ўсіх законах жанру і з разлікам на чытача. 20 п'ес напісала і паставіла некалі ў Нясвіжы Урсула Радзівіл, жонка Рыбанькі.

Кандыдат юрыдычных навук Т. Доўнар зірнула з пункту гледжання правоў жанчыны на трэцюю рэдакцыю Статута Літоўскага (1588 года). Ён меў сістэматызацыю, якой не мелі зводы законаў іншых дзяржаў таго часу, і быў надрукаваны. Згодна з ім, у ВКЛ дзяўчыну нельга было сілай выдаваць замуж, хаця, не паслухаўшыся бацькоў, яна магла быць пазбаўлена спадчыны. Цяжарных не дазвалялася за злачынства караць смерцю (папраўка ў Крымінальны Кодэкс 1922 г. пры Саветах). Была прадугледжана кара за згвалтаванне (сучасны 115 артыкул).

З нечаканага боку зірнула на роўнасць полаў В. Лямцэвіч. Хоць Ісус і казаў "усе мы адно", але яшчэ Павел даводзіў, што "жонкі нашы ў цэрквах павінны маўчаць". У каталікоў жаночых пасад у царкве наогул не было, у праваслаўных яны даўно зніклі.

Пра дабрачынную дзейнасць арыстакратак на мяжы XIX—XX стагоддзяў распавёў А. Кіштымаў. У прыватнасці, вялікія сумы ахвяравала на сацыяльныя патрэбы Гомеля княгіня Паскевіч (у дзявоцтве Варанцова-Дашкова), а княгіня Патоцкая з роду Сапегаў праславілася на ўсю Еўропу селекцыйным раслінаводствам у сваім памесці.

Беларускі жаночы рух як такі склаўся ў Беларусі на пачатку XX стагоддзя (даклад А. Гесь). Да рэвалюцыі, а пасля ў Заходняй Беларусі існавалі Таварыства абароны жанчын, Дабрачыннае таварыства імя Цёткі, Цэнтральны хаўрус беларусак, Беларускі жаночы гуртох у Літве, Аб'яднанне беларускіх жанок у Вільні, а таксама суполкі эмігрантак. Не проста змагацца за "вольную кабету", а будзіць Беларусь — вось што было іх галоўнай мэтай. Сярод тых, хто самааддана адстойваў беларускія школы, — Паўліна Мядзёлка. Варта асобнага даклада і Ларыса Геніюш, чыё імя згадвала паэтка і даследчыца з Гародні А. Петрушкевіч.

Навукоўцы з Мінска і іншых гарадоў рэспублікі агледзелі экспазіцыю "Покліч" Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, дзе і адбылася канферэнцыя. Своеасаблівым яе працягам стаў урачысты вечар у Доме літаратара, прысвечаны 120-м угодкам Цёткі.

**НАШ КАР.**

# З ВЕРАЙ У ЛЕПШУЮ ДОЛЮ

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

будзе выкараскваццa адтуль? А мо яна не ў прорву падае, а патанае ў нашай беларускай дрыгве, з якой і выкарасквацца не зможа, бо — не адпускае нікога і нічога дрыгва?

Адказ на ўсе пытанні адшуканы і дадзены іншымі народамі даўнымдаўно. Панацэя — нацыянальная ідэя. Толькі яна з'яднае, згуртуе народ, прынясе спакой і стабільнасць у дзяржаву, забяспечыць росквіт і эканомікі, і культуры.

"ЛіМ", вы ведаеце, не год і не два, а ўжо добры дзесятак гадоў працуе на гэтую ідэю. У адпаведнасці са сваімі мэтамі і задачамі, якія запісаны ў ягоным рэгістрацыйным пасведчанні: "Садзейнічанне нацыянальна-культурнаму адраджэнню, дэмакратычнаму абнаўленню грамадства; асвятленне грамадска-палітычных і літаратурна-мастацкіх падзей рэспублікі" і мы, супрацоўнікі рэдакцыі, шчыра рады, што нашы высілкі знаходзяць паразуменне і водгук у вашых душах і сэрцах, шаноўныя чытачы і падпісчыкі. І найлепшая для ўсіх нас узнагарода — чытаць вось такія вашы лісты, як гэты, што прыйшоў ад аднае настаўніцы з Віцебшчыны якраз напярэдадні Новага года: "Жывi, "ЛіМ"! Сагравай нашыя сэрцы і нашыя душы, стомленыя, знявaжаныя, але не растаптаныя... Свечкай гары! Свяціся радкамі Сумленных і Высакародных, што шчыруюць для роднай зямелькімаці! Не дай заснуць агню ў жылах тых, хто ў далёкай глыбіні, у адзіноце сярод многіх, думкамі з табой. І з табой — малітвай..."

Датуль, пакуль у нас ёсць такія чытачы, мы не трацім надзеі на лепшае. Не трацім веры ў заўтрашні дзень. Свой і — Бацькаўшчыны.

А ўсім нам разам трэба, належыць шукаць паратунак, як мы неадноічы нагадвалі, у Вялікага Купалы. Услухайцеся, што ён гаварыў сучаснікам (а значыць і нам, сённяшнім беларусам!) у 1920 годзе, у такі ж цяжкі, як і сёння, для Бацькаўшчыны час. Услухайцеся і ўзмацніцеся вераю:

"На беларускай зямлі было і цяпер ёсць шмат фальшывых прарокаў, шмат рэнегацкіх душ, што за лыжку поснай поліўкі з чужой міскі запрадаюць сябе і свой народ у рабства чужынцам, але гэтага няма чаго баяцца. У адным з псалмаў біблейскіх сказана: "стану Бог у зграмаджэнні Багоў і паміж Багамі суды судзіць". Будзем верыць, што і ў нас, беларусаў, прыйдуць новыя людзі, новыя пракрокі і будуць па-божаму над фальшывымі прарокамі і прадажнымі душамі суды судзіць, з пакалення ў пакаленне праклінцамі ўспамінаць.

Дык не зважайма на здраду, а пойдзем далей сваім хоць цярністым, але святланым шляхам, па якім дагэтуль ішлі, з верай і надзеяй к таму вечнаму сонцу праўды і справядлівасці для ўсіх і для кожнага паасобку, і будзе на Беларусі не такое свята, якое мы цяпер святкуем.

Верце, што мы з'яўляемся дзейнымі асобамі-героямі чараўнічай песні, чудатворнай містэрыі, якую тварыць на беларусі паклікала нас само жыццё. У гэтых чарах, у гэтым выяўленні бяссмертнага чалавечага духу наша пабеда, наша слава і шчасце — цяпер і ў будучыні.

Перуновым голасам будзем гаварыць з суседзямі сваімі, бліскавічнымі

Пошта

# ФАРС

Мінула з таго дня нямала часу, а ўсё прыгадваецца тэлеперадача "Адзін на адзін" небезвядомага расійскага журналіста А. Любімава, у якой бралі ўдзел расійскія думцы, наш прэзідэнт і нашы ж апазіцыянеры. Думалася, што адбудзецца змястоўны, глыбокі, непрадузяты аналіз сітуацыі, якая склалася ў Беларусі. Адбылося ж, на жаль, нешта зусім іншае.

Трэба было бачыць, як трымаліся расійскія "апаненты" прэзідэнта! Яны ж не разважалі, а павучалі нас. Ды гэтак самаўпэўнена, нахрапіста! У штыкі сустракалі ўсе довады С. Багданкевіча і П. Краўчанкі. Не паспеюць апошнія адкрыць рот, як яны тут жа бесцырымонна перапынялі іх сваімі "неабвержнымі" аргументамі. Пра інтэграцыю гаварылі як пра даўно вырашанае для іх пытанне. Складвалася ўражанне, што не мы, а яны дома.

Так балюча было за ўсіх нас! Тых, хто прыйшоў на плошчу Незалежнасці, каб падтрымаць парламент, "расійская тройка" назвала "жалкой кучкой". А гэта ж мы — беларусы!

Дыялог павінен быў весціся на роўных. А якую роўнасць мы пабачылі? Расіяне — наперадзе, беларусы — збоку, у становішчы "бедных родственников". У канцы перадачы ўдзельнікам дыялогу далі па традыцыйнай хвілінцы часу, усім — акрамя "нашай тройкі".

Прыкра, што і сам А. Любімаў не заўсёды быў карэктны ў адносінах да беларускіх парламентарыяў: прадаставіць слова і тут жа перабівае, бесцырымонна перапыняе.

Адным словам, пабачылі мы палітычны фарс, ад пачатку да канца. Такія "дыялогі" не збліжаюць людзей, а паглыбляюць паміж імі прорву.

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ**
*Пастаўскі раён, в. Камаі*

# БЕЛАРУСЫ Ў ПЕЦЯРБУРЗЕ

У Санкт-Пецярбурзе дзейнічае Беларускае грамадска-культурнае таварыства. У кастрычніку сябры таварыства бралі ўдзел у адкрыцці помніка навучэнцам рамесных вучылішчаў, што загінулі падчас блакады Ленінграда. Свае вершы, прысвечаныя іх светлай памяці, прачытала паэтка Аўгіння Кавалюк. На чарговым сходзе суполкі старшыня Валянцін Грыцкевіч прачытаў даклад да 90-годдзя газет "Наша доля" і "Наша Ніва", у якім асвятлялася роля гэтых легендарных выданняў у адраджэнні беларускай мовы і культуры.

А ў лістападзе ў горадзе на Няве была адкрыта мастацкая выстава "Беларусы ў Санкт-Пецярбурзе". На ёй экспанаваліся творы Я. Чэрнякевіча, В. Прохаварай, В. і Л. Сівухаў, Ю. Казака, В. Драздовіча, Л. і А. Аўсяннікавых. На адкрыцці беларускія песні праспяваў дзіцячы хор пад кіраўніцтвам Галіны Таўлай.

літарамі будзем упісваць сваю гісторыю ў векавечную кнігу гісторыі народаў.

З квяцістымі сонечнымі думкамі, з нязломнай верай у лепшую долю і волю пойдзем усё наперад і наперад пад святым сцягам вольнай Беларусі.

Змагайся і стань вольным, Беларускі Народ!"

Пагадзіцеся, спадарыні і спадары, што з такімі словамі-пажаданнямі зусім няблага, развітаўшыся з годам старым, пераступіць мяжу ў год Новы, які, будзем усё ж верыць, не пакіне нас без надзеі на "лепшую долю і волю".

Яшчэ раз — з Новым годам!

**Мікола ГІЛЬ**

**P. S.** Гэтым нумарам штотыднёвіка, дарагія сябры, я развітваюся з вамі, як рэдактар "ЛіМа". Новы год наш "ЛіМ" пачынае з новым галоўным рэдактарам. Як напісала адна газета, "фармальнай падставай змяшчэння з пасады галоўнага рэдактара Дзяржкамдрук палічыў пенсійны ўзрост Міколы Гіля". Што ж, няхай будзе так.

Яшчэ раз — шчырае, сардэчнае дзякуй усім вам за паразуменне, падтрымку і дапамогу. Жыве Беларусь!

**М. Г.**



# ЖАНЧЫНЫ СУПРАЦЬ ГВАЛТУ

**У тэлеперадачы "Мая сям'я" жанчына аднойчы расказала, як яна адвучыла мужа біцца. Яна зняла туфель на шпільцы і біла ім свайго законнага па галаве. (Той быў у ляжачым стане і толькі закрываўся рукамі). Начаваць пайшла да суседкі: маўляў, зноў мой рукі распускае. І калі ранкам суседка павяла яе дамоў і адхінула коўдру на спячым, то яны ўбачылі не твар, а суцэльную крывавую масу...**

**Дзікі, выключны выпадак — хоць і пададзены лёгка, у прысутнасці мужа і сына. У цывілізаванай краіне жонка звярнулася б да адной з жаночых арганізацый ці ў праваахоўныя органы, і там бы знайшлі ўправу на "дэбашыра".**

**Чаму мне прыгадаўся гэты эпізод? Жаночы хрысціянска-дэмакратычны рух (старшыня — Л. Пеціна) пры падтрымцы Фонду Сораса, прадстаўніцтва ААН і Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра правёў семінар "ЖАНЧЫНЫ І ГВАЛТ". Заўважым, што мелася на ўвазе не толькі згвалтаванне, але і ўсе формы насілля — пагрозы, абразы, грубасць.**

Дамінаванне мужчын, як вядома, склалася гістарычна. Эканамічная дыскрымінацыя суправаджалася кантролем над целам. На сённяшні дзень найбольш востра паўстае праблема насілля ў сям'і. Адной з першых дзяржаў, дзе гэтая праблема была прызнана і даследавана, сталі Злучаныя Штаты Амерыкі. Першы сакратар пасольства ЗША ў РБ Дж. Дэмерэй у сваім выступленні адзначыла, што правы жанчын у Амерыцы абаронены заканадаўча: паліцыя можа прыехаць па выкліку суседзяў і ўзбудзіць крымінальную справу без заявы пацярпелай (якая часта баіцца помсты з боку мужа). Існуе спецыяльная навучальная праграма для паліцыі, а таксама развітая кансультацыйная служба і інфармацыйны цэнтр, які вядзе статыстыку. Дапамога ахвярам уключае прафілактычныя меры і кампенсацыю маральнага ўрону, яна фінансуецца ўрадам. Кругласутачна працуе тэлефонная "гарачая лінія", г.зн. кожная жанчына можа пазваніць і папрасіць дапамогі. Значныя сумы адпускаюцца з бюджэту на фінансаванне адпаведных праграм у краінах трэцяга свету.

Мяркуючы па дакладзе сп. Ізабелы Раўці, нямала зроблена і ў Італіі. Там парламент прыняў спецыяльны закон адносна насілля. Згодна з ім, мужа, які б'ецца, можна выселіць з кватэры. Ахвяры гвалту могуць разлічваць на дапамогу не толькі грамадскіх, але і рэлігійных арганізацый. Ёсць асобны паліцэйскі дэпартамент, які займаецца праблемамі насілля над жанчынамі і дзецьмі. Паказальна ўжо тое, што ў Італіі існуе Міністэрства роўных правоў, а ў ім — камісія па барацьбе з насіллем, членам якой і з'яўляецца І. Раўці.

Грунтоўным і падрабязным быў даклад Уршулі Навакоўскай, дырэктара Цэнтра правоў жанчыны. Па выніках Пекінскага сусветнага кангрэса жанчын (1995) у Польшчы створаны спецыяльны камітэт. Працуе 12-гадзінны "гарачы тэлефон". Падрыхтавана праграма па барацьбе з насіллем, якую прафінансуе ў хуткім часе ўрад. Ёсць адпаведны савет пры прэзідэнце, спецыяльны аддзел у паліцыі. Жанчыны атрымліваюць бясплатную юрыдычную кансультацыю (з псіхатэрапеўтычным ухілам), дзе 7 юрыстаў інфармуюць пра іх правы і магчымасці, складаюць заявы, суправаджаюць ва ўчастак і г.д. За дамагальніцтва на рабочым месцы жанчына можа атрымаць кампенсацыю ў суме гадавога заработку. 15 тысяч асобнікаў брашур па гэтым пытанні распаўсюджаны сярод урадавых чыноўнікаў і жанчын Польшчы.

Падзяліліся вопытам стварэння Крызіснага псіхалагічнага цэнтра і супрацоўніца такога цэнтра з С.-Пецярбурга Н. Зіміна. Пачынаўся ён з груп псіхалагічнай падтрымкі, з вывучэння таго, што практыкуецца для абароны жанчыны на Захадзе. Атрымалі дапамогу паўтары тысячы жанчын (хоць улады горада выказваюць сумненне ў неабходнасці спецыялізаванага цэнтра). Праведзена 5 выязных семінараў, а таксама Усерасійскі дзень званка, якому папярэднічала шырокая рэкламная кампанія. Адзначана, што насілле — гэта парушэнне правоў жанчыны, што абараняць іх трэба на ўзроўні заканадаўства, структур, якія рэалізуюць заканадаўства, і грамадскай свядомасці.

Самы час запытацца, што ж мы маем у Беларусі. Пра вынікі сацыялагічнага апытання расказала прэзідэнт Беларускай асацыяцыі маладых хрысціянскіх жанчын С. Бурава. Ва ўмовах росту злачыннасці і збяднення насельніцтва расце напружанасць у сем'ях. Насілле — гэта форма неўратычнай рэакцыі, і ёй часцей за ўсё карыстаюцца дужыя. Множацца праявы асацыяльных дзеянняў і агрэсіўнасці. Ахвярамі гвалту становяцца жонкі, старыя бацькі, дзеці і зрэдку — самі мужчыны. Высветлілася, што кожная чацвёртая з жанчын была збіта (у любым узросце — ад дзіцячага да пенсійнага). Дом аказваецца не крэпасцю, а месцам, небяспечным для жыцця.

14 працэнтаў апытаных жанчын асабіста падвяргаліся згвалтаванню, у тым ліку і ў дзяцінстве. Для многіх гэта было цяжкай псіхалагічнай траўмай. (Посттраўматычны стрэс, аднак, у нас не лічыцца псіхічным захворваннем.) Нашы мужчыны, як ні дзіўна, дапускаюць выкарыстанне сексу для дасягнення меркантыльных мэтаў. Заўважана, што стаўленне да ўсіх форм насілля напрамую залежыць ад адукацыі. 12 чалавек са 100 дапускаюць магчымасць фізічнага насілля ў сям'і, шырока практыкуецца фізічнае пакаранне дзяцей. І такі вось факт: 55 працэнтаў асуджаных у дзяцінстве цярпелі пабоі.

Мы даведаліся, што ў Беларусі практычна адсутнічае статыстыка злачынстваў у сем'ях, што мужы падлягаюць крымінальнаму пакаранню толькі ў тых выпадках, калі жонка траціць працаздольнасць на 8 дзён.

Семінар быў карысны і тым, што разбурыў многія міфы ў нашай свядомасці. Мужчына гвалтуе не таму, што моцна загарэўся, а каб прынізіць, растаптаць асобу. Гэта не пытанне сексу, а пытанне ўлады.

Чалавечая псіхіка кадзіравана сацыяльна, а не біялагічна, як лічыць галоўны рэдактар феміністкага часопіса "Переображение" Н. Габрыэлян. Сама патрыярхальная культура спрычыняецца да дыскрымінацыі жанчын. А. Гапава з Аб'яднання універсітэцкіх жанчын разважала пра тое, што стаўленне да жанчыны — крытэрый прагрэсу і цывілізаванасці любой дзяржавы. Магутны нацыянальна-вызваленчы рух на Усходзе спарадзіў жанчын — прэм'ер-міністраў у Індыі, Турцыі, Пакістане. У нас жа існуе тэндэнцыя звесці жанчыну да нуля — да моды, кулінарных рэцэптаў і да т.п.

Пытанні, якія падымаліся на семінары "Жанчыны і гвалт" прадстаўніцамі многіх жаночых арганізацый Беларусі, павінны, па вялікім рахунку, абмяркоўвацца ў парламенце. Але добра ўжо тое, што яны падымаюцца, выносяцца на людзі. Плануецца правесці семінары такога роду у рэгіёнах і выйсці з цягам часу на ўзровень грамадскіх акцый. Спроба стварэння айчыннага Крызіснага цэнтра намаганнямі Беларускага саюза сацыяльных педагогаў — гэта завельмі мала, каб супакойвацца. Тым больш, што ўрадавая праграма (а яна нібыта ёсць) не забяспечваецца сродкамі.

**НАШ КАР.**

Варункі

# "АРЫШТ"

**Усім, хто размаўляе па-беларуску, пачынаючы з вясны гэтага года, не раз даводзілася чуць крыўднае: "Ну что ж ваш Зенон Поздняк, кинул вас, белоруссов, а сам в Америку сбежал". "А што, лепей, каб чалавек сядзеў у турме?" — пытаюся я ў такіх "добразычліўцаў". "Да кому он нужен!" — пырхаюць яны. "Патрэбны, — адказваю я, — патрэбны. Адміністрацыі, напрыклад". І пачынаю распавядаць гісторыю, сведкам якой быў я сам. Як кажуць, не бачыў бы, дык не гаварыў.**

**Памятнага 26-га красавіка, пасля Чарнобыльскага Шляху, Зянон Станіслававіч Пазняк і Юры Віктаравіч Хадыка знаходзіліся ў памяшканні Фронту. Сюды, ва ўправу, ішлі трывожныя званкі з усіх куткоў горада аб тым, што пасля мітынгу, які праходзіў каля Палаца спорту, пачаўся хапун. Людзей жорстка збівалі, хапалі ў метро, на прыпынках, на вуліцах. Часта асноўнай прыкметаю, з-за якой забіралі, была беларуская мова.**

**Ва ўправе знаходзіцца было ўжо небяспечна, і Зянону Станіслававічу было прапанавана з'ехаць, бо хоць неяк перашкодзіць таму, што адбывалася ў горадзе, не было магчыма. Але было ўжо позна. Да галоўнага ўваходу ўправы падкацілі ПАЗік і РАФік, запоўненыя людзьмі ў цывільным. Яны чамусьці не пачалі аперацыю па захопе Пазняка адразу. Мабыць, не былі ўпэўненыя, што Пазняк тут, і таму не было адпаведнай каманды.**

**Маладыя хлопцы, якія былі ў вітальні ўправы і ўбачылі пад'езд аўтобусаў, адразу паведамілі пра гэта. Заставалася адное выйсце — запасны выхад, які выводзіў у двор дома, праз які і выйшлі спадары Пазняк і Хадыка і яшчэ некалькі чалавек.**

**Але, як аказалася, дворык быў закрытым і адзіны выхад з яго быў якраз ля пад'ехаўшых аўтобусаў.**

**Тады адзін малады чалавек, які таксама выйшаў праз запасны выхад, з маладой дзяўчынаю пад ручку рушыў з дворыка і падышоў да цэнтральнага ўваходу ўправы. Ён сказаў аднаму фронтаўцу, які быў тут з машынаю, пра сітуацыю. Гэты спадар сеў у машыну, развярнуўся, заехаў у дворык і спакойна вывез Зянона Станіслававіча і Юрыя Віктаравіча і тых, хто быў разам з імі.**

**А ў гэтую хвіліну да ўправы ўжо ў поўнай цемры падышоў спадар Баршчэўскі. Доблесная група захопу, прыкінуўшы, што па росце і па валасяным покрыве на галаве ён падобны на Зянона Пазняка, кінулася з аўтобусаў і схапіла яго, вынікам чаго і былі трое сутак, праведзеных спадаром Баршчэўскім за кратамі.**

**Ва ўправу камандас не палезлі, задаволіліся схопленым "Пазняком". Калі ж, урэшце, у пастарунку разабраліся, што гэта Баршчэўскі, а не Пазняк, управу штурманулі другі раз, выцягнуўшы адтуль дэпутата Знаўца, але гэта ўсё ж быў не Пазняк.**

**Тым, хто яшчэ сумняваецца, ці схапілі Зянона Станіслававіча, нагадваю, што назаўтра ўжо трое з пяці намеснікаў Пазняка па Фронце сядзелі ў турме. Супраць дваіх з іх і зараз вядуцца судовыя справы.**

**Заканчваючы сваю рубрыку, хачу пажадаць чытачам "ЛіМа" і сабе, а таксама ўсім нашым знаёмцам, правесці новы, 1997 год на свабодзе.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## ВУЧОНЫ І ДАСЛЕДЧЫК

**75-годдзю з дня нараджэння Сцяпана Александровіча прысвячалася навуковая канферэнцыя, што прайшла ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Выступоўцы гаварылі пра важкі і адметны ўклад вучонага і даследчыка ў гісторыю роднай культуры і літаратуры, пра яго змаганне за лёс беларускага слова.**

**Адкрыла пасяджэнне дырэктар Коласаўскага музея З. Камароўская. Яна вучылася ва універсітэце ў Сцяпана Хусейнавіча і пісала дыпломную работу пад яго рупным кіраўніцтвам. Затым рэй павёў галоўны арганізатар канферэнцыі дацэнт Мінскага педуніверсітэта, віцэ-прэзідэнт Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" І. Канапацкі.**

**З Масквы на ўрачыстасць прыехаў прафесар А. Каўка. Ён калісьці вучыўся ў Сцяпана Хусейнавіча ў Мінскім бібліятэчным тэхнікуме. З успамінамі пра С. Александровіча выступілі таксама Я. Брыль, Н. Гілевіч, М. Аўрамчык, А. Ліс, В. Чамярыцкі.**

**Закончылася канферэнцыя песнямі на розных мовах (і, вядома ж, на татарскай), якія зладжана і мілагучна выканаў дзявочы вакальны ансамбль Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур.**

**Кастусь СЦЕПАНЮК**

## ПРА БЕЛАРУСЬ І БЕЛАРУСАЎ

**Сталыя чытачы газеты "Во славу Родины" — раней яна была, як вядома, друкаваным органам Беларускай ваеннай акругі, цяпер — Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь — памятаюць, як на працягу 1990—1994 гадоў у рубрыцы "Беларусь: архівы часу" рэгулярна змяшчаліся гісторыка-краязнаўчыя нарысы Станіслава Асіноўскага, якія расказвалі пра розныя перыяды з жыцця Беларусі, знаёмілі з нашымі знакамітымі земляками. Нямнога-нямала, а за гэты час з'явілася 150 публікацый, што мелі ярка выражаны адраджэнскі характар.**

**Не сказаць, каб яны ўсіх узрадавалі. Знайшлося нямала і тых, хто гэта палічыў звычайнай фальсіфікацыяй. Гора-"інтэрнацыяналістам" не падабалася, што аўтар пісаў зусім не тое, што яны прывыклі сустракаць у заідэалагізаваных падручніках па гісторыі і манаграфіях, у якіх звычайна беларуская даўніна разглядалася і асэнсоўвалася, як нейкі прыдатак да гісторыі расійскай.**

**Тым не менш публікацыі С. Асіноўскага зрабілі добрую справу, сказалі шмат праўды і пра наш народ, і на нашу краіну. А што яны былі не проста актуальнымі, а не пазбаўленымі навуковай і мастацкай вертасці, лёгка ўпэўніцца цяпер, пазнаёміўшыся з кнігай С. Асіноўскага "Там, дзе была Няўрыда", выпушчанай выдавецтвам "Полымя".**

**Зразумела, усе нарысы ў яе ўвайсці не змаглі, але і тыя, што прадстаўлены, з цікавасцю сустрэнуць для сябе і вучні-старшакласнікі, і студэнты — усе, хто неабыякавы да нацыянальнай гісторыі.**

## ЗАПРАШАЕ ДОМ ЛІТАРАТАРА

**Мерапрыемствы Новага года пачнуцца 3 студзеня, калі ў 11 гадзін дзеткі збяруцца на Калядную ёлку.**

**У гэты ж час 14 студзеня рэдакцыя часопіса "Вясёлка" прэзентуе кнігу "Нам засталася спадчына".**

**На 15 гадзін запланаваны пачатак работы секцый:**

**прозы — 15 студзеня, паэзіі — 16 студзеня, перакладу — 23 студзеня, секцыі літаратуры для дзяцей і юнацтва, на якой будзе абмеркавана паэзія на старонках часопіса "Першацвет" — 29 студзеня.**

**А гэтыя мерапрыемствы пачынаюцца ў 18 гадзін 30 мінут:**

***23 студзеня* — прэм'ера кніг А. Кірвеля "Формула замежжа" і "Чалавеку ўласціва",**

***27 студзеня* — творчая вечарына Галіны і Пятра Васілеўскіх,**

***31 студзеня* — на творчым вечары І. Краснадубскага прагучаць песні і рамансы І. Лучанка на вершы беларускіх паэтаў.**

***У Польшчы адбылася міжнародная канферэнцыя "Новая Еўропа: Уяўленне пра дэмакратычны парадак. Дэмакратыя як галоўная ўмова для новай Еўропы", арганізаваная Вроцлаўскім і Цюбінгенскім універсітэтамі пры падтрымцы карпарацыі "Фольксваген" і Міжнароднага цэнтра Цюбінгенскага універсітэта. Канферэнцыя была досыць прадстаўнічай: у яе рабоце прынялі ўдзел вучоныя, журналісты, палітолагі, сацыёлагі, гісторыкі з дванаццаці краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, а таксама Вялікабрытаніі і ЗША.***

***Удзельнікі канферэнцыі абмеркавалі ход працэсаў дэмакратызацыі ў краінах былога сацыялістычнага лагера, а таксама праблемы інтэграцыі краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы ў агульнаеўрапейскія арганізацыі. Асаблівая ўвага была нададзена сітуацыі ў Расіі, роля якой у гэтых працэсах надзвычай вялікая. Практычна ва ўсім рэгіёне станаўленне дэмакратычнага грамадства адбываецца складана, патрабуюцца сур'ёзныя структурныя і інстытуцыянальныя рэформы, якія маглі б прывесці да стварэння сапраўды грамадзянскага грамадства ў гэтых краінах. Тое, наколькі паспяховымі будуць крокі краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы ў гэтым напрамку, залежыць ад цэлага шэрагу фактараў, якія ўключаюць у сябе не толькі ступень дэмакратызацыі грамадства, але і вырашэнне праблем грамадзянства, узаемаадносін паміж рэгіёнамі і дзяржавай у цэлым, адносін паміж рознымі этнічнымі групамі, а таксама пытанні палітычнай культуры грамадства і яго членаў, паводзіны розных грамадска-палітычных груп, падтрымку ідэй і каштоўнасцей ліберальнай дэмакратычнай дзяржавы ў процівагу аўтарытарным поглядам і прынцыпам, якія засталіся ў спадчыну ад мінулага.***

***Узровень дэмакратызацыі ў краінах Усходняй і Цэнтральнай Еўропы розны, досыць разнастайныя і ўмовы, на фоне якіх адбываецца гэты працэс. Калі Польшча здзіўляе ўсю Еўропу тэмпамі свайго эканамічнага развіцця і сляды гэтага бачны на кожным кроку, то Расія толькі выходзіць на стартавую пазіцыю, а Украіна і Беларусь яшчэ не падышлі да пачатку сапраўдных рэформ. Усё гэта вызначыла характар абмеркаванняў прадстаўленых дакладаў і матэрыялаў.***

***Адным з найбольш актыўных удзельнікаў канферэнцыі быў аўтарытэтны нямецкі палітолаг, прафесар Цюбінгенскага універсітэта Герд МАЕР, які не па чутках ведае праблемы рэгіёна. Ён актыўна ўдзельнічае ў сумесных праектах, што ажыццяўляюцца з Маскоўскім і Санкт-Пецярбургскім універсітэтамі і надае асаблівае значэнне наладжванню плённых кантактаў з акадэмічнымі коламі ў краінах былога СССР.***

# ЦЯЖКІЯ ШЛЯХІ НОВАЙ ЕЎРОПЫ

Прафесар Маер ласкава пагадзіўся адказаць на шэраг пытанняў.

**— Як бы вы ацанілі сённяшнюю сітуацыю ў краінах былога Савецкага Саюза, асабліва ў Расіі і на Беларусі?**

— Думаю, што перад гэтымі краінамі стаіць велізарная задача дэмакратызацыі палітычнай сістэмы, асабліва палітычнага жыцця, палітычнай культуры грамадства, хоць сітуацыя ў дзвюх краінах розная. Праблема ў тым, што ў большасці постсавецкіх краін парушаны баланс улад. Гэта вынік таго, што палітычныя партыі яшчэ недастаткова моцныя, а ўдзел насельніцтва ў палітычным жыцці невялікі. Уяўляецца, што розныя палітычныя групы і групоўкі, якія аб'ядноўваюцца ў палітычнай эліце, кіруюцца перш за ўсё сваімі групавымі інтарэсамі замест таго, каб клапаціцца пра інтарэсы ўсяго народа. На жаль, я не вельмі добра ведаю сітуацыю на Беларусі, бо інфармацыя пра вашу краіну ў нашых газетах недастатковая і неадэкватная. Мне ўвогуле здаецца, што Захад як быццам не заўважае Беларусь. Гэта тлумачыцца тым, што праблема дэмакратызацыі грамадства яшчэ не вырашана. Назіраюцца тэндэнцыі, якія ідуць уразрэз з агульнапрызнанай канцэпцыяй дэмакратыі, і існуюць праблемы з стварэннем дэмакратычных інстытутаў і іх сапраўдным функцыянаваннем.

**— Як вы думаеце, што можна было б зрабіць, каб павысіць палітычную культуру людзей і забяспечыць іх большы ўдзел у дэмакратычным працэсе? Трэба прызнаць, што хоць апошнія дзесяць гадоў былі вельмі хваравітымі, выклікаўшы актыўную прыцягненасць людзей у розныя акцыі, калі яны пачалі разумець, што з'яўляюцца сур'ёзнай сілай у палітычным працэсе, грамадская думка як такая яшчэ па сутнасці не сфармавалася, калі мы гаворым не пра асобныя палітычныя групы, СМІ, а пра грамадства ў цэлым.**

— Перш за ўсё мне здаецца абсалютна неабходным, каб існаваў шырокі спектр незалежных сродкаў масавай інфармацыі, каб інфармацыя была аб'ектыўнай і незалежнай ад думак і меркаванняў. Гэта асабліва важна для тэлебачання, якое прымаюць у большасці дамоў. І, вядома, у друкаваных сродках масавай інфармацыі і іншых сродкаў сувязі павінна быць як мага больш плюралізму думак, абмеркавання альтэрнатыўных пунктаў поглядаў, аргументацыі "за" і "супраць". Адна з праблем — гэта тое, што людзі павінны быць адэкватна і аб'ектыўна інфармаваны; другая — гэта тое, што навучанне грамадзянскім правам, г.зн. утварэнне грамадзяніна, — гэта аснова фармавання палітычнай свядомасці, калі грамадзянін свядома гатовы ўдзельнічаць у палітычным жыцці, і, патрэцяе, сама палітычная сістэма і асабліва яе палітычная эліта павінны адчуваць адносіны людзей, і тады людзі будуць ведаць, што яны аказваюць уплыў на палітыку. Таму парламент павінен быць моцным у сваіх правах у адносінах да выканаўчай улады, а гэта вымагае больш актыўнага ўдзелу насельніцтва ў выбарах. Насельніцтва не можа толькі абвінавачваць кіраўніцтва, але павінна несці і сваю долю адказнасці: калі ты не ідзеш на выбары, значыць, ты не карыстаешся сваім правам. Але, і гэта пятае, павінна быць заахвочванне і зверху, пакуль дэмакратычныя нормы і працэдуры яшчэ праходзяць праз родавыя пакуты.

**— Еўрапейскі Саюз надае вялікую ўвагу навучанню грамадзянскім правам. У постсавецкіх краінах на гэта робіцца ўпор у многіх адукацыйных праектах. Вы супрацоўнічаеце з вядучымі расійскімі універсітэтамі. Якую форму мае гэтае навучанне ў Расіі, як яно можа быць выкарыстана для павышэння палітычнай культуры насельніцтва?**

— Спачатку я хацеў бы сказаць некалькі агульных рэчаў. Я думаю, што адкрытасць грамадства, абмен інфармацыяй, адсутнасць цэнзуры, даступнасць адукацыі, магчымасць падарожнічаць з'яўляюцца важнейшай умовай адукацыі грамадзяніна. Навучальныя ўстановы, а гэта не толькі універсітэты, а і школы, звычайна мяняюцца вельмі марудна. Вы не можаце чакаць, што людзей, якія, напрыклад, на працягу гадоў, а то і дзесяцігоддзяў выкладалі марксізм-ленінізм і іншыя ідэалагізаваныя дысцыпліны, можна і на працягу года або двух прымусіць зусім змяніцца. Гэта будзе аўтарытарнае рашэнне. А гаворка ж ідзе пра падрыхтоўку тых, хто будзе навучаць. І таму гэта прывядзе да зваротных вынікаў. Вы атрымаеце зусім іншы вынік, калі пакажаце, як вырашыць гэтую праблему дэмакратычным шляхам.

Яшчэ адзін аспект супрацоўніцтва з гэтымі універсітэтамі — прадастаўленне ім самых новых кніг, вучэбных дапаможнікаў, матэрыялаў, праграм — мы маем тут вялікі вопыт. Але, відаць, самае галоўнае — гэта канкрэтныя, зразумелыя, практычныя, рэальныя формы гэтай адукацыі. Пры гэтым нельга абапірацца толькі на інфармацыю. Інфармацыя важная, але недастатковая. Гаворка ідзе пра сацыяльныя паводзіны, якія павінны пачынацца з першага дня ў школе: як ты паводзіш сябе ў групе, як ты прымаеш рашэнні ў такім калектыве, як школа, клас, як ідзе кіраванне школай, як паводзіць сябе настаўнік у адносінах да вучняў. Гэта больш пытанне вопыту, практыкі ў школе, сям'і, грамадскім жыцці і, у рэшце рэшт, у палітычнай сферы. Можна было б сказаць, што лепшая праграма гэтай адукацыі — гэта прыклад палітыкаў і ўсіх тых, хто дзейнічае на публіцы.

**— Міжнародны цэнтр Цюбінгенскага універсітэта ўдзельнічае ў праграмах, прызначаных для Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, як, напрыклад, гэты сімпозіум. Як вы думаеце, якімі могуць быць вынікі такіх абмеркаванняў, канферэнцый?**

— Гэта перш за ўсё абмен думкамі паміж вучонымі краін Захаду і Усходу, але, акрамя таго, паміж вучонымі постсавецкіх краін. Але абмену думкамі і інфармацыяй недастаткова. Вядома, мы пра многае даведаліся адзін ад аднаго, але, што важней, мы павязём з сабою гэту інфармацыю, гэтыя пункты погляду дадому, у нашы універсітэты, каб скарыстаць іх пры напісанні артыкулаў, чытанні лекцый, і дзякуючы гэтаму людзі ў нашых краінах даведаюцца аб сітуацыі і праблемах адзін аднаго. Вынікам гэтай канферэнцыі таксама стане кніга, якая будзе карыснай, як кожнае навуковае выданне. І яшчэ адна немалаважная рэч: мы здолелі спазнаць адзін аднаго асабіста, і гэта не толькі асабісты вопыт, гэта важна для далейшага супрацоўніцтва, таму што ўсе мы пачалі лепш разумець не толькі палітычныя праблемы, але і тое, што гэтыя праблемы азначаюць у жыцці іншых краін. Акрамя таго, акадэмічныя сувязі сталі не такімі моцнымі, як раней, і падобныя канферэнцыі памагаюць вучоным зноў сустрэцца.

**— Адзначана чарговая гадавіна падзення Берлінскай сцяны. Як вы думаеце, ці сапраўды змянілася Еўропа? Я не маю на ўвазе толькі палітычныя змены, яны відавочныя, ці палітычную карту Еўропы, якая сёння выглядае зусім іначай, чым у 1989 годзе. Ці ёсць такія змены, якія не можа не заўважыць чалавек, які перасякае Еўропу з Усходу на Захад? Ці ідзе працэс інтэграцыі?**

— Думаю, што тыя людзі з Заходняй Еўропы, якія бывалі ва Усходняй Еўропе раней, цяпер прыкмячаюць, што людзі сталі больш адкрытымі. Сталі заўважнымі змены на вуліцы: з'явіліся новыя дамы, ідзе рэстаўрацыя старых будынкаў. Назіраюцца змены ў сістэме адукацыі, людзі могуць чытаць тое, што было недаступна раней, сталі магчымымі больш адкрытыя стасункі паміж людзьмі.

**— Раней людзі, якія наведвалі Савецкі Саюз, гаварылі пра асаблівы выраз твару савецкага чалавека, заўсёды суровы, без усмешкі. Ці заўважылі вы нейкія змены ў выразе твару людзей на вуліцах Масквы або Пецярбурга?**

— Цяжка сказаць. Усе гэтыя стэрэатыпы надта агульныя, але нельга не заўважыць, што людзі не скардзяцца на жыццё, хоць іх жыццё няпростае. Гэта значыць, што людзі набылі пачуццё ўласнай годнасці і па-свойму вырашылі псіхалагічную праблему. Я не магу адмаўляць наяўнасць масавай беднасці, але адначасова адчуваецца, што пры ўсёй важнасці матэрыяльнага дабрабыту ў людзей ёсць разуменне таго, што існуе штосьці не менш важнае, чым хлеб і каўбаса, і што акрамя грошай і кар'еры ў жыцці важныя чалавечыя ўзаемаадносіны, салідарнасць, сям'я, любоў. Магчыма, гэта гучнае слова, але яно ляжыць у аснове ўсяго.

**— І апошняе пытанне. Ці не думаеце вы, што магчыма новая Берлінская сцяна, новая халодная вайна?**

— Не, не думаю. Усё так глыбока змянілася і ў вас, і ў нас, што проста не можа быць вяртання да мінулага ні ў эканамічнай, ні ў палітычнай, ні ў культурнай галінах. З дэмакратызацыяй і крокамі па шляху да рынкавай эканомікі людзі і на Усходзе, і на Захадзе пачынаюць лепш усведамляць адрозненне паміж сабой, але пры гэтым і разумець, што яны павінны не стаць аднатыпнымі, "заходнімі", а ўзяць усё лепшае, што ёсць у другога: перавагі рынкавай эканомікі, дэмакратыю, адкрытасць, давайце станем па-сапраўднаму сучаснымі і набудзем дабрабыт у дэмакратычным грамадстве. Мы бачым цяжкасці на гэтым шляху, таму што мы такія розныя, у нас розныя інтарэсы, ёсць перашкоды на шляху да інтэграцыі краін Заходняй, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Гэты працэс будзе больш працяглым, чым думала большасць людзей. Гэта ўсё роўна, як ісці па камяністай дарозе, але ж гэта не азначае, што па гэтай дарозе нельга ісці. Кожны сваім шляхам, але ўсе разам — да новай Еўропы.

**— Дзякую за вашы шчырыя і вычарпальныя адказы.**

**Прафесар Юрый СТУЛАЎ**

*Душнікі—Здруй—Мінск*

Уладзімір МІХНО

# ЗДАРЭННЕ Ў БУШАЎЦЫ



АПАВЯДАННЕ

ЗМЯРКАЛАСЯ. Антон праспешыў крок. Лесам трэба было ісці яшчэ кіламетраў пяць, а тут дарогу перамяло. Хлопец стараўся ступаць у свой след, які праклаў раніцою, калі ішоў у школу, але ногі ўсё роўна правальваліся глыбей у снег. Сёлета снег як порхаўка, за ўсю зіму не было ніводнае адлігі, не паспяваў асесці, прытаптацца, як зверху сыпаўся яшчэ і яшчэ. І дарогу на Восава, мабыць, ні разу за ўсю зіму ніхто не пачысціў. Каму галава баліць, калі ходзіць у Бушаўку, за сем кіламетраў, з далёкага маленькага Восава адзін ён, Антон Галавешка, і то ўжо ў адзінаццаты клас? Налета па гэтай дарозе не застанецца каму хадзіць, акрамя ваўкоў. Воўчы след Антон сустракае тут часта і можа лёгка адрозніць яго ад сабачага ці якога іншага. Але баяцца — не баіцца, прывык. Да ўсяго прывыкаеш. На выпадак сустрэчы з ваўком мае хлопец кішэнны ліхтарык, хоць і не курэц, носіць заўсёды крэсіва і запалкі. Беражонага Бог беражэ. Ваўкі баяцца агню. Кажуць, недзе ля касагорыцы іхні пераход. Але Антон іх ніводнага разу не сустракаў. Мабыць, не такія яны дурні, каб трапляцца на вочы чалавеку.

Добра ўвесну ці восенню: сеў на веласіпед — і за дваццаць хвілін дома. Дарога тут добрая, гравійка, імчыш на "другой касмічнай", толькі пылюга з-пад колаў і дробныя каменьчыкі ўрассыпную. А восенню ўвогуле хоць ты ў школу не едзь. Ягад, грыбоў! А што, можна і не ехаць. Нічога ён там, у школе, не забыўся. Усё роўна класуха абяцала выпхнуць з "воўчым білетам"... Лепей вунь збочыць на балотца, што ля Грымучага Ручая, ды есці сабе ўволю ягады — прыгаршчамі. У верасні тут аж чырвана — брусніцы, журавіны. На высокіх купінах — пераспелыя, шызыя, буйныя галабоні, сям-там нават яшчэ чарніцы трапляюцца. А маліны!.. Лясная маліна спее позна, доўга трымаецца на кусце, бы знарок чакае, калі Антону настане час у школу ездзіць. Позняя ягада салодкая, пахучая, сама ў рот просіцца. Маліннікам парасла ўся аблога ля Грымучага Ручая, а вышэй, пад касагорыцу, на пясчаніках густа парос ельнік. Там знайшлі сабе схову чарнагаловікі-баравічкі. Раніцою едзеш, а яны ўжо тут як тут, галоўкі павысоўвалі, грэюцца на сонейку, маладзенькія, крамяныя — люба глянуць.

Антон увесь гэты лес як свае пяць пальцаў ведае. Колькі разоў браў яго бацька з сабою на абход. Лес, як і чалавек, любіць, каб яго паважалі. Лес нават умее помсціць. Калі ты аднойчы яго пакрыўдзіў, паздзекаваўся — чакай расплаты. Бацька Антона — ляснік. Ды хто не ведае Сеньку Галавешку! Адны яго хоць пабойваюцца, ды паважаюць, другія і баяцца, і ненавідзяць. Кожнаму не дагодзіш. А Санька мёдам не намазаны, каб яго любіць. Дый ёсць чаго баяцца — мужык ён круты, запальчывы. Але душу мае, няма чаго богу грашыць. Калі якая кабета-ўдава у лес па сухадрэвіну прыедзе, можа яе ляснік і "не заўважыць". А бывалі нават выпадкі, калі Санька, сустрэўшыся, яшчэ і сам пасабляў ускінуць на воз дровы. Затое ж, калі які гіцаль, наеўшы дома карак, сунецца з бензапілою па дармовыя дровы ды пачынае паскудзіць у лесе без разбору, не раўнуючы памаўзлівы кот, які дарваўся да смятанкі, не мінуць яму Санькавых рук, дужых, учэпістых. А трэба — і стрэльбаю папужае. Баяліся злодзеі не штрафу, не суда, баяліся сустрэчы з лесніком. Са стрэльбаю, праўда, Санька жартаваць не любіць, бо гэта апошні ў спрэчцы аргумент. Колькі разоў хадзілі Антон з бацькам на паляванне, блындаюць па лесе, бывала, да цёмнага, а ўпаляваць нікога не ўпалююць. Хіба разы са два прынеслі дадому зайца. Высачыць бацька звера, наблізіцца, а ў самы адказны момант... апусціць стрэльбу, дасць яму ўцячы.

— Вось каб і ў звера, — кажа, — стрэльба была, справа іншая. А так што выходзіць? Забойства, брат, выходзіць, па-іншаму не назавеш.

— Табе, бацька, звер даражэй за чалавека, — пасміхаўся Антон.

А той адказваў сур'ёзна:

— Чалавек чалавеку розніца, як і звер зверу. Іншы чалавек, сынок, і ёсць той самы звер, адно што падняўся на дзве нагі і займеў розум, і то небагата. А калі чалавек-звер пачынае думаць, ён яшчэ болей небяспечны...

...Ісці заставалася нямнога. Наперадзе — касагорыца. Калі на яе падымешся, то ўжо й Восава відаць. Ды і снегу тут, на ўзгор'і, паменела, відаць, завірухі паразмяталі яго далёка па лагчынах. Затое браўся добры мароз. Антон адчуў яго вушамі, самому ж ісці было цёпла, нават горача. Спіна ўзмакрэла — дзіва, адбухаць гэтулькі кіламетраў па суцэльных сумётах. Не паспела сцямнець, як з-за шырокіх дрэў выпаўз на неба сярэбраны сярпок — нараджаўся маладзік.

Антону раптам здалося, што за ім нехта ўважліва сочыць. Асцярожна азірнуўся. Нідзе нікога. Толькі лес абапал дарогі, месяц на небе ды сумёты на зямлі. І цішыня. "У страха вочы вялікія, — падумаў хлопец, — няйначай падалося". Але на ўсякі выпадак прыбавіў кроку. Галоўнае, падняцца на касагорыцу — а там ужо можна полем да вёскі. У прыдарожных кустах затрашчэла сухое галлё, падалося, мільгануў нечы цень... Страшная здагадка раптам апякла хлопца. Але, можа, усё ж сабака?.. Антон міжволі палез у кішэню па ліхтарык. Шчоўкнуў выключальнікам, але лямпачка не загарэлася ярка, толькі затлела, бы светлячок, і неўзабаве зусім патухла: селі батарэйкі. Антон уголас вылаяўся, успомніўшы, што даваў сёння ліхтарык малым. Абяцалі праз паўгадзіны вярнуць, яшчэ й падзарадзіць батарэйкі. Як прасяць, тады жнуць і косяць... Вярнулі толькі пасля ўрокаў. "Падзарадзілі"... "Ат, было не было, можа, і праўда які вясковы сабака, прабяжыцца ды адчэпіцца? — стараўся сам сябе супакоіць хлопец. — Прайду..."

Але не ступіў ён і двух крокаў, як убачыў... ваўка — наперадзе. Болей сумнявацца не выпадала. Драпежнік лянівa, бы нехаця, выйшаў на дарогу і — метраў за дваццаць ад чалавека — сеў. Хлопец на паўкроку знерухомеў, ліпкім холадам абдало яго спіну, ногі раптам здранцвелі, зрабіліся цяжкімі — пудовымі, так бывае ў кашмарным сне: перастаўляеш, а яны не слухаюцца, не ідуць, быццам прыліпілі, прыраслі да гэтай праклятай гурбы. Толькі зараз чалавек усвядоміў сваю бездапаможнасць перад зверам і — разгубіўся. Але ўсё роўна ён не верыў, бо немагчыма было паверыць, бо жыць хацелася. Хацелася жыць, нягледзячы ні на што... Воўк раптам падняўся, абтросся — і ступіў крок насустрач чалавеку.

І гэты крок вярнуў Антону сілу. Ён не заўважыў, як апынуўся на бліжэйшай напалову сухой яліне. Рукі заходзіліся ад болю, недзе садраў аб няроўную калючы мерзлы камель. Гарэлі далоні, вушы гарэлі і лоб. Казытлівымі раўчукамі штосьці сцякала па шчаках. Няможна было зразумець — ці то пот, ці то кроў, ці то слёзы. Антон баяўся даць паслабку рукам, якія намертва ўчапіліся за галіны, баяўся паляцець уніз. Агаломшаны, так і вісеў бы разапнуты на елцы, пакуль бы хапіла сіл рукам. Стала ледзянець узмакрэлая ад поту чупрына — зразумеў, што дзесьці згубіў, пакуль лез, шапку. Дзіва, шапкі шкада не было, мабыць, страціўшы галаву, па шапцы не плачуць. Шкада было рук, якія таксама пачалі калець, і хто ведае, колькі яшчэ пратрымаюць яго неслухмянае цела? Нядоўга. Трэба было нешта рабіць, пакуль не позна. Сабраў у кулак усю сваю волю і — падцягнуўся вышэй. Больш таго, злаўчыўшыся, сеў на кашлатую тоўстую галіну. Сядзець было даволі ёмка, нават было да чаго прыхінуцца спіною. Адсюль, каб і хацеў, не зваліўся. Спакваля на Антона зноўку вярталіся сілы. Ліхаманкава пачаў расціраць рукі, вушы, шчокі. Зірнуў уніз — і зноўку ўбачыў ваўка. Той спакойна сядзеў пад елкаю, чакаў. Ён нават не глядзеў на сваю ахвяру, здавалася, быў абыякавы да яе. Ці не той гэта самы драпежнік, што блукае па лясах у наўколлі і помсціць чалавеку? За Бушаўкай, казалі, яшчэ з восені людзі знайшлі ваўчыные логава, малых забралі, а ваўчыцу, падпільнаваўшы, забілі. Воўк жа аказаўся хітрэйшым і ўцёк. Пасля гэтага то тут, то там прападалі авечкі, аднаго разу знайшлі зарэзанае цяля. Але ж яшчэ не чувась было, каб воўк нападаў на людзей.

Рукі крыху акрыялі. Раптам Антон успомніў пра крэсіва.

"Ага, — злосна прашаптаў да ваўка, — зараз мы табе наладзім..."

Хлопец абмацаў кішэні, але нічога там, акрамя падмокшага карабка запалак, не знайшоў. Крэсіва, відаць, засталося там, дзе і шапка. Ну й даўбешка, мямля, баба... Лаяў сябе, як мог. Спалохаўся, разгубіўся, пабег, пагубляў усё, быццам упершыню ў лесе. Антона забірала лютая злосць, нянавісць да сябе самога за тую хвілінную слабасць на дарозе, якая так дорага яму каштавала. Падумаць толькі, крэсіва згубіў! Трэба было там, на дарозе, адразу ж і запаліць агонь, у яго сшыткаў, кніжак поўная сумка... А зараз навошта яны?! Зараз адна надзея — на запалкі. Асцярожна, як мага акуратней дрыготкімі і ўсё яшчэ калянымі рукамі дастаў карабок. Чырканўў адну — засіпела, задымілася, зламалася, другую — тое ж самае. Адсырэлі! Апантана чыркаў запалкамі, пакуль не сашкроб з карабка ўсю серу. Нервы не вытрымалі. У адчаі крычаў, лаяўся, плакаў, але ніхто яго не чуў і не мог пачуць тут, акрамя самотнага маладзіка і нахабнага драпежніка, які, здавалася, таксама не вытрымаў адчайнага, надрыўнага чалавечага крыку-праклёну, бо з цікаўнасцю, нават ці не са спачуваннем пазіраў на падлетка, але ад елкі адыходзіць, відаць, не збіраўся.

— Ну, што табе трэба, што табе, мяса мала? Мяне, мяне цябе захацелася? На, жры, падавіся, — шалеў Антон, кідаючы ваўку кніжкі, сшыткі, нарэшце не вытрымаў, запусціў сумкаю. Навошта яму цяпер усё гэта, навошта, калі ўсё роўна на гэтай праклятай елцы давядзецца здохнуць!..

Воўк адскочыў убок, перачакаў, пакуль закончыцца "бамбардзіроўка", і вярнуўся зноў. Цяпер ён бачыў, што чалавека болей няма чаго баяцца. Чалавек без зброі — усяго толькі кавалак ядомага мяса. Застаецца чакаць... І ён цярпліва чакаў.

Тым часам Антон супакоіўся. А можа, проста скарыўся перад лёсам? Цела зноўку зрабілася непаслухмяным, быццам чужым, абыякавао зрабілася душа. Смерць наступае не тады, калі яна наступае, а тады, калі ты пускаеш яе да сябе, калі пачынаеш чакаць яе, апусціўшы рукі.

Яшчэ мільганула была думка: навошта ж ён і сумку кінуў у ваўка, зараз бы на ёй мякчэй, лацвей было сядзець. Але ногі ўжо зацяклі, астывалі, станавіліся чужымі. Сумка яму сапраўды болей непатрэбна... Бо ў класе цёпла, нават горача. Адно што дасталася ваўку недаробленая дамашняя работа па алгебры. Косінусы, сінусы, тангенсы, катангенсы... Ды воўк з імі. Учора да цёмнага катаўся на лыжах, калі было за тую алгебру брацца? Сёння, кажа, забыўся сшытак. Клякса не верыць: бяжы па сшытак дадому. А як жа! Пабяжыць ён у Восава па сшытак, шукай каго дурнейшага. Тады класуха бярэ ў два пальцы, асцярожна, бы якую гадзюку, сумку яго і рэзка, упэўненым, спрактыкаваным рухам вытрасае ўвесь яе небагаты змест на свой стол. Кнігі паскакалі яшчэ далей — пад парту, злоўлены на месцы злачынства сшытак аказаўся якраз у руках класухі, а вось апетытны бутэрброд з кілбасою і маслам, які маці яму раніцою паклала, вядома ж, нейкім ненатуральным чынам выкальваецца з газеты і, згодна фізічнаму закону подласці, прызямляецца напаўрастопленым масляным бокам акурат на раскрытым класным журнале. Вось табе і незмываемая пляма на ўвесь адзінаццаты клас. Адзінаццатаму весела. Антона "коні забіраюць". Класуха блізкая да істэрыкі!

— Ты ў мяне, Галавешка, заначуеш, абяцаю табе!

— Дык я што, хіба я супраць? А муж не выганіць?

І — новы выбух, быццам землятрус калоціць адзінаццаты. Класуха гады тры, як на пенсіі. У школе няма каму працаваць, і таму дырэктар з радасцю адшуквае "карысныя выкапні"...

Антон дадому і не спяшаецца. Пасля ўрокаў, калі ў школе застаюцца адны балбесы, а такіх з усіх старэйшых класаў кожнага дня набіраецца цэлы ўзвод, пася ўрокаў нават весела. Адзін плача, другі скача, трэці песенькі спявае. Возьмешся ты ці не ганяць па сшытку тыя функцыі, а інтэлектуальна, па душах пагаварыць з класухаю можна.

— Хны-хны-хны, да мамкі хачу, Кацярына Аляксандраўна, мамка ляяцца будзе...

— Цішэйце, тупіцы склератычныя, вось калі свая вош укусіць, яшчэ ўспомніце, па чым фунт ліха.

Пасля такіх заяў міжволі пачэсваеш сваю склератычную патыліцу, прыслухоўваючыся, ці не цябе ўжо збіраецца ўкусіць паганае насякомае. Але вош пакуль не кусае — ты і рады.

— Кацярына Аляксандраўна, а што, як мяне з'ядуць у лесе ваўкі?

— Нічога, адным нявывалакам у школе меней стане.

— Але ж мой бацька вас тады заб'е. У яго, ведаеце, якая страшная стрэльба?

— Бацька твой мне яшчэ і дзякуй скажа. Бач, сам у людзі выбіўся, паважаным чалавекам стаў. Эх, вы, нягеглыя стварэнні, хоць бы бацькоў сваіх пасаромеліся.

Толькі надвечар, калі Кляксе, мабыць, прыспічыць карміць сваіх свіней, "нягеглыя сатварэнні" весела бягуць дадому. Любіць Антон такія марозныя зімовыя вечары, калі на захадзе запальваюцца чырванню зараніцы... Самая вялікая зараніца — Клякса... пасаджаная на класны журнал... тлустая, бліскучая... расце... вырасла на паўнеба, засціць вочы, пераліваецца, зіхаціць... Вочы зліпаюцца ў кароткім радасным бестурботным сне. І ўтульна, і хораша. І Антон ужо не чуе блізкага стрэлу. Затое добра чуе яго воўк. Хітры звяруга, злавіўшы чуйным вухам небяспеку, імгненна знікае ў кустах...

Доўга блукаў бы па лесе Санька-ляснік, хоць і ведае тут кожную ваўчыную сцежку, калі б не спатыкнуўся на замецёнай снегам дарозе аб нешта мяккае, пушыстае. Сынаву шапку пазнаў адразу, сляды драпежніка вялі ад яе да сухое елкі...

...Назаўтра пра Антонаву шапку загаворыць увесь раён...

...Назаўтра Санька, схапіўшы стрэльбу, вопрамецціцю бег праз лес, у Бушаўку. Думалі, што ён ашалеў...

Клякса сядзела за настаўніцкім сталом і нешта запісвала ў журнале, калі на парозе, белы, як здань, паявіўся ляснік. Знячэўку Клякса падхапілася, застыла. Сціхла ў класе. Дрыготкімі пальцамі ляснік узняў стрэльбу, прыцэліўся... і апусціў. Шалёна затрэсліся яго плечы, нервова захадзілі жаўлакі. Чалавек бязгучна, адчайна плакаў...

У рэанімацыю паступілі двое: раніцою — моцна абмарожаны хлапец гадоў шаснаццаці, а пад вечар — жанчына ў гадах з цяжкою формаю інсульта. Разам яны пабачыліся са смерцю, каб пасля павольна вяртацца да жыцця.

Тэатр

# "У НАС АДЗІН ПРАДМЕТ ЛЮБОВІ..."

***Нагодаю для размовы з Рычардам СМОЛЬСКІМ, доктарам мастацтвазнаўства, старшынёй цэнтра тэатральнай крытыкі "Авансцэна", сталася канферэнцыя "Акцёрскае мастацтва: шляхі станаўлення і развіцця ў кантэксце еўрапейскіх сцэнічных культур", — канферэнцыя ладзілася ў Віцебску з 20 па 21 лістапада. Трэба разумець, што сама ідэя наладзіць падобную сустрэчу спецыялістаў узнікла, калі стала вядома, што Міністэрства культуры супольна з Акадэмічным тэатрам імя Якуба Коласа мае намер адсвяткаваць ягонае, тэатрава, сямідзесяцігоддзе. Гаворка вялася пра акцёрскае — менавіта пра акцёрскае — мастацтва: без артыста тэатра не бывае. І еўрапейскі кантэкст тлумачыцца не толькі адцягнена, скажам, беларускім геапалітычным становішчам. Еўрапейскія акцёры едуць да нас — сябе паказаць, нашы акцёры не толькі гастралююць па Еўропе (часцей, праўда, гастролі гэтыя падобныя да сціплых выездаў), але і бяруць удзел у супольных тэатральных праектах.***

**— Рычард Баляслававіч, што вам асабіста, як крытыку, давяло наша супрацоўніцтва з Еўропай? Або, будзем дакладнымі, наша імкненне з ёю супрацоўнічаць?**

— Што лепшыя акцёрскія сілы Беларусі ні ў чым не саступаюць еўрапейскім — цэнтральна, паўночна, паўднёва... Нічым. А часам па некаторых вымярэннях і пераўзыходзяць.

**— Асаблівасць ці не кожнай імпрэзы "Авансцэны" ў тым, што сустракаюцца на іх тэатральныя тэарэтыкі і практыкі. Гэты раз хто з іх прадстаўляў уласна Еўропу?**

— Расію — тэатразнаўца Вольга Скарачкіна (Санкт-Пецярбург), Польшчу — крытык і тэатразнаўца Марыюш Зіновец (Варшава). Прысутнічалі і выступалі эксперты Рады Еўропы — Кэтлін Тэйлар (каардынатар культурнай палітыкі Рады, Страсбург), якая запрасіла Элі Малка (Парыж) з тэатра Адэон — спадар Малка, акрамя адметнага тэатральнага менеджменту, займаецца тым, што кіруе Саюзам еўрапейскіх тэатраў (аб'ядноўвае дзесяць вядучых еўрапейскіх тэатраў, у тым ліку — тэатра Льва Додзіна з Санкт-Пецярбурга). Наведала Віцебск і пані Крысі Цылер (Лондан, Каралеўскі тэатр), каардынатар адукацыйнай работы ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе.

**— Пунктам гледжання практыкаў ці не супярэчылі вымогі й запатрабаванні тэарэтыкаў? Тым больш, што названыя персоны паспяхова займаюцца і тым, і другім...**

— Мы даведаліся, што на сёння ў Англіі засталіся толькі два рэпертуарныя тэатры. Астатнія, а іх там процьма, — прыватныя, дамоўныя, часовыя калектывы на адну пастаноўку. Паводле сп. Цылер, нават вядучыя акцёры, седзячы без працы, мусяць штораз з паперамі ў руках даводзіць сваё беспрацоўе, каб атрымаць дапамогу. Гэта спарадзіла пэўны сум сярод нашых практыкаў сцэны, асабліва сярод акцёраў — перспектыва ў нейкім часе паспытаць хоць сабе і еўрапейскага беспрацоўя каго ўзрадуе? Паводле сп. Малка, у Францыі і Германіі інакш. Калі артыст запар атрымлівае кантракт на дванаццаць гадоў у адным тэатры, ён аўтаматычна ўваходзіць у асноўны склад трупы і працуе да пенсіі. І зарабляе гэтую пенсію. Праўда, сам пан Малка вельмі небагата ведае прыкладаў такой абароненасці: часцей пасля дзесяцігадовай працы чалавеку хітрамудра ўтвараюць перапынак, а потым — ізноў патрапляе давесці, што ты патрэбны... Заходнія тэатральныя структуры не самыя прымальныя для нас. Мадэль дзяржаўнага, рэпертуарнага, з пастаяннай трупай тэатра — наша відавочнае дасягненне. Для мастацтва. А сапраўдныя мастацкія творы не заўсёды карыстаюцца камерцыйным поспехам, — гэта ж вядома.

**— Матэрыялы канферэнцыі выйдуць асобным выданнем (таму няма патрэбы іх падрабязна пераказваць на нашых старонках), але справа крытыкі — далікатная, датклівая. Ці варта на чыесьці выступленні звярнуць пільную ўвагу?**

— Дужа спадабаўся ўдзельнікам маналог Валерыя Маслюка, мастацкага кіраўніка коласаўскага тэатра. Даклады Тамары Гаробчанкі ("Коласаўская акцёрская школа") і Таццяны Катовіч ("Стылістычныя асаблівасці акцёрскай ігры майстроў коласаўскай! сцэны 70—90-х гадоў") проста ўразілі залу багаццем назіранняў, абагульненняў. Доктар філасофскіх навук В. Салееў разважаў пра тыпалогію славянскіх традыцый, а загадчык кафедры майстэрства акцёра і рэжысёра Беларускай акадэміі мастацтваў Лідзія Манакова ўсіх вярнула да праблемы праблем: каго вучыць акцёрскай прафесіі, як вучыць і... дзеля чаго! Вывучаючы замежны досвед, міжволі высноўваеш, што акцёр, як і рэжысёр, як і крытык, акрамя як крытыкай, мусіць займацца яшчэ... чымсьці. Мець іншую прафесію: нашы тэатральныя прафесіі не заўжды прыдаюцца да жыцця. Статыстыка Акадэміі мастацтваў сведчыць, штогод акцёрскі дыплом выдаецца дзесяці-пятнаццаці маладым людзям. Праз дзесяць гадоў па спецыяльнасці працуюць два-тры чалавекі. Што і пацвердзіла, ужо як практык, гродзенская актрыса Алена Гайдуліс. Тое самае можна сказаць і пра рэжысёраў, і пра тэатразнаўцаў.

**— Думка пра тое, што чалавеку тэатра трэба мець дзве-тры прафесіі, паўтараецца ўсё больш настойліва. Якая яна на самай справе, патрэба ў тэатральных спецыялістах? Прафесійнік мастацтва неяк губляецца ў сённяшніх агульных разважаннях пра культуру. Мо акрамя мройнага сацыяльнага статуса, практык мастацтва мусіць мець сёе-тое больш пэўнае? Забяспечаную, гарантаваную падтрымку ўласных высілкаў? Маскоўскі крытык Марына Цімашава, іранізуючы, яшчэ пяць гадоў таму заўважыла: "Нікому не патрэбны ў скрутную часіну тэатральныя крытыкі. Страшэнна далёкія яны ад народа..." Вядома, іронія грунтавалася на выслоўі знанага марксіста, маўляў, "вузкае кола гэтых..." (рэвалюцыянераў — у арыгінале). Але газета, дзе гэта было надрукавана, ужо колькі гадоў даходзіць толькі да бібліятэк Беларусі: "Экран і сцэна". Як "страшэнна далёкая ад народа"?..**

— Ну, калі пра крытыку, дык такой прафесіі ў Беларусі не існуе. Каб займацца крытыкай, трэба мець работу і практыку, скажам, газетнага аглядальніка, выкладчыка, тэатразнаўцы ці навукоўца-філосафа. Спрэчка пра неабходнасць крытыкі (частка тэатральнай культуры ва ўсе часы!) мяне б здзівіла. Іншая рэч — мы рэдка гаворым пра саміх сябе. Я за некалькі дзесяцігоддзяў вызначыў (для сябе) некалькі відаў, мовім так, прафесійных захворванняў. Вымагаць і мець павагу ніколі не будзе так званая кішэнная крытыка: яна не слугуе тэатру, яна абслугоўвае ўплывовых творцаў. Асблугоўвалі і Крапіву, і Макаёнка — як у наш час Вячаслаў Ракіцкі, крытык, безумоўна, прафесійна адметны, не хавае, што самая важная персона ягонага абслугоўвання — Аляксей Дудараў. Пры гэтым не відаць, каб сам драматург быў надта задаволены такою паслужлівасцю. Ці не тое самае — абслугоўваюць! — можна сказаць і пра крытыка Л. Грамыку, і пра А. Ганчарова. А. Ганчароў, дарэчы, выдае вартую тэатральную газету "Арлекін", дзе паспяхова займаецца тэатральнай рэкламай. Рэкламай, — не трэба, бадай, газеце прэтэндаваць на разважлівы, узважаны аналіз. Цяжка пераацаніць у справе заахвочвання і падтрымкі крытыкі ролю Саюза тэатральных дзеячаў: спасылаючыся на брак сродкаў, зліквідавана секцыя крытыкі, якая шмат гадоў давала магчымасць журналістам, філосафам, эстэтыкам або выкладчыкам займацца надзённай і штодзённай крытыкай. Праўда, намеснік старшыні саюза Антаніна Міхальцова працуе з дзвюма асобамі — з Вячаславам Ракіцкім і Таццянай Арловай. Але ці не замала для паўнаты карціны, для ахопу працэсу і г.д. толькі іх дваіх? Як генеральны сакратар напалову міфічнай арганізацыі, якая называецца Нацыянальны цэнтр Міжнароднага інстытута тэатра, Антаніна Іванаўна нават... выступае на Кіпры па праблемах антычнае драмы. Увогуле, СТД апошняга часу нагадвае мне... гуту, дзе вырабляюцца крышталёвыя паўлінкі, кароны, кветкі, яйкі, — каб ганараваць, каб віншаваць... Аднабаковасць дзейнасці? Відавочная. У праблему ператварылася і падрыхтоўка тэатразнаўцаў. Беларуская акадэмія мастацтваў усю іх падрыхтоўку ўзваліла на плечы мастацтвазнаўцы Таццяны Ратабыльскай, адметнага спецыяліста, але — аднаго.

**— Магчыма, нетактоўным пытаннем я выклікала самыя неспадзяваныя адказы, — перапрашаю. Але як у такі (не еўрапейскі ўжо — як далёка мы адышлі ад прадмету гаворкі!) кантэкст упісваецца дзейнасць самой "Авансцэны"?**

— У статуце запісана правядзенне аналітычнае работы ў сферы тэатральнага мастацтва, крытыка, культуралогія. Выдалі сем прац: зборнікі матэрыялаў канферэнцыі, манаграфіі. Супрацоўнічаем з дзяржаўнымі і недзяржаўнымі камерцыйнымі структурамі, зарабляем грошы на статутную дзейнасць. Чытачам "ЛіМа" цікава будзе даведацца, што на днях убачыць свет кніга Фані Алер, якая была дырэктарам купалаўскага тэатра — з 1938 па 1946 год (калі знаёміўся з рукапісам, проста адкрыцці рабіў). У бліжэйшых планах — выданне манаграфій пра Рахленку і Тарасава. Працуем над праектам прыватнай тэатральнай школы, яна перадусім будзе рыхтаваць тэатральных менеджэраў і крытыкаў. Мала сёння наракаць на гаротны лёс у мастацтве, — трэба хоць памкнуцца яго змяніць. Тое, што я казаў вышэй — мая рэакцыя на падзеі, якія, дзякаваць Богу, адбываюцца па-за сцэнай. Дрэнна будзе, калі на іх пачнуць з гэтай самай сцэны рэагаваць. Бо пры ўсёй нашай чалавечай адрознасці мы, крытыкі, маем адзін прадмет любові ды працы — тэатр. І тое, што беларускі тэатр увайшоў у еўрапейскую супольнасць высокаразвітым ды адметным, — падымае і наш статус.

**З Рычардам СМОЛЬСКІМ гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

Музыка

# "ЛАД" ЗНАЧЫЦЬ СУЛАДНАСЦЬ І ЗЛАДЖАНАСЦЬ

Аркестр баянаў і акардэонаў Мінскага вучылішча мастацтваў зусім малады. Ён створаны ў 1992 г. М. Коласавым, а праз год з гэтым калектывам пачалі працаваць таленавітыя музыканты, сямейная пара Арцімовічаў: Галіна (акардэаністка) і Уладзімір (баяніст). Яны вырашылі ўдыхнуць новае жыццё ў аркестр, зрабіўшы яго сапраўды творчым. І пачалі з таго, што далі калектыву імя "Лад". Цудоўнае славянскае слова! Ладзіць — гэта значыць жыць у згодзе, раіцца; дзейнічаць зладжана — значыць імкнуцца зразумець свайго партнёра, разам ствараць, супераджываць, увасабляць агульную задуму.

Кіраўнікі аркестра вырашылі зрабіць яго ўдзельнікаў сваімі "суразмоўцамі". З часам Уладзімір Арцімовіч зарэкамендаваў сябе сапраўдным лідэрам, асобай, ад якой зыходзіць мастацкі ток вышэйшага напружання. "Лад" дасягнуў высокай ступені выканаўчага майстэрства, ансамблевай зладжанасці, рытмічнай дысцыпліны, яркасці і пластычнасці фразіроўкі, даволі моцнага туцці без фарсіроўкі гуку, выразнасці і празрыстасці гучання.



Вынік — сёлета аркестр "Лад" на конкурснай аснове двойчы меў гонар быць запрошаным да ўдзелу ў міжнарожных імпрэзах: у X Фестывалі студэнцкай музыкі (май 96-га, французскі горад Бельфор) і конкурсе аркестраў акардэонаў "Рудольф Вюртнер м'юзік прайз" (кастрычнік, горад Трасінген, Германія). Акрамя высокага звання лаўрэата, калектыў атрымаў спецыяльны прыз і адзнаку "выдатна" аўтарытэтнага журы (паводле сістэмы "Нямецкага Саюза Гармонікі" ў намінацыі "Акардэонныя аркестры высокай і вышэйшай ступені складанасці выконваемай праграмы"). У ліку арганізатараў гэтага конкурсу — вядомыя фірмы: "Міжнародная канфедэрацыя акардэаністаў С і А", "Еўрапейскі Саюз акардэонных аркестраў", "Нямецкі Саюз Гармонікі".

Агульная "хвароба" нашых баянна-акардэонных аркестраў — нядобраякасны інструментарый. Гэта можа загубіць усе самыя высокія мастацкія дасягненні аркестрантаў і дырыжора. Але, дзякуючы таленту і майстэрству У. Арцімовіча як аранжыроўшчыка, удалося недахопы інструментарыя зацямніць, а вартасці паказаць буйным планам. Старшыня і члены журы таго конкурсу са шчырым захапленнем не толькі віншавалі мастацкага кіраўніка "Лада" з паспяховым выступленнем, але і адзначылі незвычайныя, вельмі самабытныя інструментоўкі і прапанавалі заключыць пагадненне аб выданні інструментовак У. Арцімовіча ў Германіі. Нямецкія дырыжоры, кіраўнікі акардэонных аркестраў зацікаўлены, каб гэтыя ноты атрымаць.

Значны поспех "Лада" на міжнародным узроўні — гэта і заслуга Галіны Арцімовіч. Яна — другі дырыжор, салістка і канцэртмайстар аркестра.

Рэпертуар "Лада" адлюстроўвае прыхільнасці кіраўнікоў, пажаданні аркестрантаў, салістаў (сярод іх — міжнародны лаўрэат цымбалістка Святлана Верамейчык, цудоўны спявак-барытон Віктар Кедала) і разлічаны на слухачоў з самымі рознымі мастацкімі густамі і запатрабаваннямі. Тут прадстаўлены творы Агінскага, Глінкі і Чайкоўскага, Моцарта і Шумана, Шчадрына, Хачатурана і Цыганкова, Гершвіна і Гарланда, народныя песні і танцы — беларускія, рускія, украінскія, нямецкія, іспанскія ды многае іншае.

Дасягнуць высокага мастацкага ўзроўню ў аркестравым выканаўстве цяжка, але цяжэй яго ўтрымліваць і ўдасканальваць. І тое, што "Лад" імкнецца да новых творчых здзяйсненняў, пацвярджаюць тэле- і радыёперадачы з яго ўдзелам дый самі запісы аркестра, якія па-сапраўднаму ўпрыгожваюць праграмы эфіру.

**Міхась СОЛАПАЎ, прафесар Беларускай акадэміі музыкі**

*На здымку — "Лад".*

Віншуем!

# Лідзіі ЯЛОЎЧЫК — 85



Родам Лідзія Ялоўчык з вёскі Марцянаўцы Ваўкавыскага павета (цяпер Ваўкавыскі раён). У час першай сусветнай вайны сям'я апынулася ў бежанстве ў Оршы, дзе Л. Ялоўчык скончыла чатыры класы. Па вяртанні на радзіму працавала па гаспадарцы. У 1934 годзе скончыла прамыслова-гандлёвую школу ў Гародні, а ў 1937 годзе, здаўшы экстэрнам экзамены, атрымала права працаваць настаўніцай у пачатковай школе. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з Савецкай Л. Ялоўчык працавала на Гродзенскім радыёвяшчанні, справаводам у лясгасе. У 1940 годзе паступіла на рускае аддзяленне літаратурнага факультэта Гродзенскага настаўніцкага інстытута.

У час вайны Л. Ялоўчык жыла ў бацькоў на вёсцы, а з 1944 года працавала ў Дзенькаўскай пачатковай школе Ваўкавыскага раёна. Завочна скончыла падінстытут (1949). Выкладала рускую мову і літаратуру ў Батароўскай няпоўнай сярэдняй школе, была загадчыцай навучальнай часткі Рыбніцкай сямігодкі, зноў працавала ў Батароўскай школе Гродзенскага раёна. У 1967 годзе пайшла на пенсію.

Літаратурную працу пачала ў 1936 годзе з вершаў. З 1958 года ўваходзіла ў літаратурнае аб'яднанне пры абласной газеце "Гродненская правда". Першую кнігу апавяданняў "Карэнне жыцця" выдала ў 1973 годзе. У 1981 годзе выйшлі аповесці "Дзе яно, шчасце...", у 1988-ым — зборнік прозы "Па хісткай лесвіцы".

З днём нараджэння, шаноўная Лідзія Парамонаўна! Здароўя Вам і новых жыццёвых і творчых поспехаў!

# Марыі ФІЛІПОВІЧ — 50



Вёска Смётанка Аршанскага раёна — радзіма Марыі Філіповіч. Нарадзілася яна ў сялянскай сям'і, у роднай Смётанцы скончыла сем класаў, пасля вучылася ў Дубровенскай вячэрняй школе, Магілёўскім медыцынскім вучылішчы, якое скончыла ў 1968 годзе. Працавала фельчарам да 1982 года — спачатку ў Віцебскай, а потым у Мінскай абласцях.

Цікавасць да літаратуры, жаданне пісаць прывялі М. Філіповіч на завочнае навучанне ў Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага ў Маскве (1974—1980). Чатыры апавяданні, напісаныя ў 1974 годзе на творчы конкурс для паступлення ў гэтую вышэйшую навучальную ўстанову, і сталі пачаткам яе творчага шляху, а першымі публікацыямі ў рэспубліканскай перыёдыцы — апавяданні "Сустрэча" (часопіс "Нёман") і "Дванаццаць месяцаў" пад Новы год" (часопіс "Бярозка"), апублікаваныя ў 1978 годзе.

З 1983-га па 1984 гады М. Філіповіч працавала бібліятэкарам у Оршы, затым была супрацоўніцай рэдакцыі шматтыражнай газеты "Трыбуна наватара" (Орша, 1984—1985). З 1985-га па 1990 год знаходзілася на творчай рабоце. Працавала ў рэдакцыі газеты "Набат", у газеце "Рэспубліка". Цяпер галоўны рэдактар газеты "Чистый мир", актыўна выступае як публіцыст у перыядычным друку.

Першая кніга М. Філіповіч "Мадонна з Выселкаў" (1984) сустрэла прыхільны водгук крытыкі. Асабліва высока ацаніла яе А. Васілевіч, выступіўшы ў "ЛіМе" з артыкулам "Пасвойму, адметна". На мастакоўскім рахунку М. Філіповіч — і кніга прозы "Клетка для каханай", зборнік апавяданняў для дзяцей "Пра Алеся і яго сяброў"... Для твораў пісьменніцы характэрна пільная ўвага да маральна-этычных праблем, глыбока псіхалагічна асэнсоўвае яна наша паўсядзённае жыццё, раскрывае ўнутраны свет сучаснай жанчыны.

З поўднем веку Вас, шаноўная Марыя Канстанцінаўна! Новых поспехаў Вам і здабыткаў — жыццёвых і творчых!

# У ПОШУКАХ ПРАЎДЫ

## Аляксандры САКОВІЧ — 90

"Літаратура для мяне заўсёды была вялікай духовай радасцю. А беларуская літаратура, беларускае слова лучылі мяне з Беларуссю, давала сілы і надзею. Гэта мой самы вялікі скарб і самая вялікая любоў", — так піша, азіраючыся на пройдзены шлях, адна са старэйшын літаратуры беларускага замежжа Аляксандра Саковіч. А прыгадаць ёсць што. Асабліва з агледзін цяперашняга дня пісьменніцы спаўняецца 90 гадоў.

Узрост больш чым паважаны. Нарадзілася А. Саковіч (сапраўднае прозвішча Рытар, імя Іна) у Адэсе ў беларускай сям'і, што пераехала на поўдзень з мястэчка Ярэмічы (гэта цяперашняя Наваградчына). У Ярэмічах звычайна праводзіла лета. А потым, як вядома, была рэвалюцыя, грамадзянская вайна, жыццёвая няпэўнасць. У пачатку 1921 года Аляксандр Рыгоравіч Чарвякоў прымае захады, каб хлопчыкі і дзяўчынкі, якія засталіся без бацькоў, маглі вярнуцца на радзіму. Першым пераязджаў дзіцячы дом, у якім працавала старэйшая сястра А. Саковіч. Яна паклапацілася, каб забраць з сабой і Іну.

"У Менску, — успамінае А. Саковіч, — я спынілася ў дзіцячым доме, дзе сястра мела пакой... А праз сад ад нашага дома быў дзіцячы садок, дзе загадчыцай працавала Уладзіслава Францаўна Луцэвіч ці, як яе ўсе называлі тады, — Купаліха".

Адбылося знаёмства і з самім народным песняром. Тым больш, што старэйшая сястра А. Саковіч хутка выйшла замуж за пісьменніка Міхайлу Грамыку. У доме сястры панавала творчая атмасфера. Гэта ў немалой ступені паспрыяла таму, што А. Саковіч паступіла ў Беларускі педагагічны тэхнікум. Пасля другога курса стала студэнткай гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Напісала шмат навуковых рэфератаў, захапілася рэвалюцыйнай дзейнасцю Кастуся Каліноўскага, нават збіралася напісаць пра яго раман. Выйшла замуж. Муж Дамінік Сеўрук вучыўся ў Маскве. Пакуль збіралася да яго, у Мінску пачаліся арышты "нацдэмаў". З сынам паехала да маці ў Адэсу, а пасля перабралася ў Гомель, дзе муж, пасля заканчэння інстытута, уладкаваўся ў інстытут авіяцыйнага машынабудавання.

Сямейнае шчасце, аднак, было нядоўгім. Захварэў і памёр сын, а потым... Вось як яна згадвае аб тым трагічным дні: "8 сакавіка 1938 года Дамінік прынёс білеты ў тэатр. У тэатры я ўбачыла, што за намі селі два энкавэдысты. Я сказала аб гэтым Дамініку, а ён мне адказаў: не звяртай увагі. У антракце яны сачылі за намі. Я зноў сказала мужу аб гэтым, а ён толькі пажартаваў: гэта ты спадабалася ім... Пасля спектакля мы паехалі дахаты, а ў нашым двары стаіць "чорны воран".

Мужа забралі. Засталася з маленькай дачкой на руках і стала жонкай "ворага народа". Перабралася да брата ў Падмаскоўе, з год выкладала нямецкую мову ў той школе, дзе ён працаваў дырэктарам.

А ў вайну з цяжкасцямі дабралася на радзіму. Настаўнічала ў Ярэміцкай сямігодцы, пасля ў Наваградскай настаўніцкай семінарыі. Калі пачалося вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, вырашыла лёс не выпрабоўваць — падалася ў эміграцыю, апынулася ў Германіі. У гэты цяжкі момант, калі шмат было няпэўнасці, паратунак знайшла ў літаратуры: "Аднойчы мне трапіла ў рукі газета "Раніца", якую выдаваў у Берліне Кастусь Езавітаў. Газета мне спадабалася і я паспрабавала нешта напісаць... Гэта былі ўспаміны "Менск у 1930—1931 гг." і невялікае апавяданне. Успаміны неўзабаве з'явіліся ў "Раніцы", а апавяданне — не. Ці то слабое было, ці то недзе згубілася..."

Па-сапраўднаму літаратурнай працай А. Саковіч занялася ў ЗША, куды пераехала ў 1950 годзе. У 1951—1954 гадах так званае "Крывіцкае (Беларускае) навуковае таварыства Францішка Скарыны" выдавала навукова-літаратурны часопіс "Веда". Для яго і напісала артыкулы пра жыццё беларусаў-бежанцаў у Адэсе і прафесара М. Доўнар-Запольскага, лекцыі якога слухала ва універсітэце. Да прозы звярнулася пазней.

Наконт гэтага гаворыць наступнае: "Я, можа, і не перайшла б, калі б так не павярнулася маё жыццё. Я выйшла замуж за Аўгена Каханоўскага (Калубовіча) і пераехала жыць у Клійленд. У Нью-Йорку я мела доступ да выдатных бібліятэк, шматлікіх архіваў. А ў Клійлендзе ўсяго гэтага не было... Таму я вымушана была перайсці да апавяданняў і аповесцяў". З'явіліся публікацыі ў эмігранцкіх выданнях. Аповесць "Браты" ў 1973 годзе выйшла асобнай кнігай ў Саўт-Рыверы, яе выдаў Янка Золак. Беларускі ж Інстытут навукі і мастацтваў выпусціў у 1986 годзе аднатомнік выбраных твораў А. Саковіч "У пошуках праўды", у якім сабраны па сутнасці ўсе яе апавяданні і аповесці. За межамі выдання засталіся толькі артыкулы, успаміны, але ўсе яны згадваюцца ў бібліяграфіі, што завяршае кнігу.

Ва ўступе "Ад выдавецтва" звернута ўвага на прывязанасць А. Саковіч да рэальных фактаў: "У творчасці А. Саковіч — значная частка біяграфічнага матэрыялу, ды матэрыял гэты добра адлюстроўвае цэлы перыяд жыцця маладой беларускай інтэлігенцыі, якая ўваходзіла ў нацыянальную дзейнасць у 1920—1930-х гадах".

Пра гэта па-свойму гаворыць і сама пісьменніца, "Нярэдка чытачы пытаюцца пра некаторыя мае апавяданні і аповесці: "Гэта вы пра сябе расказалі? Гэта аўтабіяграфія?" Не. Хоць мушу зазначыць, што аўтабіяграфічны элемент да некаторай ступені знайшоў адбітак у маіх творах. Сюжэты, у якіх б'ецца пульс і кроў рэальнага жыцця, лягчэй тварыць тады, калі сам перажыў, сам зблізку нагледзеў".

Аўтабіяграфічныя моманты відочны і ў аповесці "Паміж Сцылай і Харыбдай" — бадай, лепшым творы А. Саковіч. У ім праўдзіва адлюстраваны некаторыя падзеі мінулай вайны, калі нацыянальна свядомая беларуская інтэлігенцыя апынулася на ростанях. Гэта тычыцца і іншых твораў — аповесць "Браты", апавяданні "На Захад!", "З кім яна?", "Настачка", а таксама "Петрыкаў тата" і "Сама", у якіх пісьменніца пільна ўзіраецца ў дзіцячую душу.

**А. АН-ЕВІЧ**

## СПОЎНІЛАСЯ Б ТОЛЬКІ ШЭСЦЬДЗЕСЯТ...

**у гэтыя дні паэту і драматургу Яўгену Шабану, але ўжо чатырнаццаць гадоў, як яго няма разам з намі (памёр 30 ліпеня 1982 года). Нарадзіўся Я. Шабан у вёсцы Калодзіна Мядзельскага раёна. Скончыў акцёрскі факультэт Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ў 1959 годзе. Быў акцёрам, загадчыкам літаратурнай часткі тэатра імя Я. Коласа (1958—1965), рэжысёрам студыі Беларускага тэлебачання (1965—1976), а з 1976-га па 1980 год — загадчыкам літаратурнай часткі тэатра імя Я. Купалы.**

**Літаратурную працу пачаў у 1960 годзе з вершаў. Выйшлі кнігі "Нарачанка", "Чырвоныя суметы". Найбольшага поспеху дасягнуў у галіне драматургіі. Аўтар п'ес "Ракіроўка" (1975), "Прад'явіце пропуск" (1975), "Сіні снег" (пастаўлена ў 1975 годзе) і іншых, лібрэта тэлеоперы "Ранак" (пастаўлена ў 1968 годзе), сцэнарыя тэлефільма "І смех, і бяда" (пастаўлены ў 1980 годзе). Займаўся перакладамі паэзіі і драматургіі.**

## ПРАЗ ТРЫ ГАДЫ ПАСЛЯ "ПЕРШАГА" ЖЫЦЦЯ



**У памяшканні Дома літаратара аўтарская некамерцыйная галерэя "Брама" прэзентавала выставу сённяшняга амерыканца, а ў нядаўнім мінулым шараговага беларуса Валерыя Грыгаровіча. Першую сваю выставу ён арганізаваў у той жа галерэі "Брама" тры з паловай гады таму перад самай эміграцыяй у Амерыку. А прыехаўшы ў госці "дадому", прывёз з сабою колькі новых работ.**

**Відаць, сапраўды, жыццё беларуса на новым кантыненце мяняецца на 180 градусаў. Знікаюць мінулыя стэрэатыпы, жыццё закручваецца з неймавернай хуткасцю, ап'яняе пачуццё даступнасці, магчымасці тэхнічнага наватарства, спрошчанасці і камп'ютэрызаванасці матэрыялаў для мастацкага самавыяўлення. Для маладога хлопца, які на радзіме скончыў радыётэхнічны інстытут і звярнуўся да мастацтва праз неабходнасць да творчага самавызначэння як да сродку сінтэзу, Амерыка стала сапраўднай меккай. Гаворачы строгай моваю крытэрыяў мастацкай школы, Валерый Грыгаровіч — шукальнік, збіральнік, дызайнер, вынаходнік, летуценнік, а не мастак у нашым разуменні. Але трэба аддаць яму належнае: яго работы прыцягваюць парадаксальнай лагічнасцю, якая часам выступае праз намаляваныя "няумела-дзіцячыя" малюнкі, уяўным духам індзейскай культуры (што толькі даказвае здольнасць беларуса надзвычай хутка растварыцца ў культуры той нацыі, у якой жыве), падсвядомым пачуццём колеравай гармоніі.**



**Валерый пачаў свой творчы шлях у чужой краіне, прайшлі яго першыя выставы ў Нью-Йорку і Вашынгтоне. Магчыма, яго мастацкае самавыражэнне знойдзе там прытулак і прызнанне.**

**Н. Ш.**

*На здымках: закрыццё выставы. Работа В. Грыгаровіча.*

# ТРАДЫЦЫЯ НЕ СТРАЧАНА

***У нашай літаратуры была досыць трывала ўсталявалася традыцыя пісаць вершаваны твор пэўнага жанру і зместу калектыўна, гуртам. Так яшчэ ў 1936 годзе паявілася калектыўная паэма-ода "Пісьмо беларускага народа Вялікаму Сталіну", да якое прыклалі руку ажно шасцёра знакамітых песняроў. У 1938 годзе была апублікавана патэтычная паэма "Чырванасцяжны Камсамол", аўтарамі якой былі таксама шэсць чалавек, пяцёра з якіх — камсамольскага ўзросту. У 1940-м былі абнародаваны калектыўная ода "З тваім імем у сэрцы" (пісалі ўчатырох) і паэма "Таварышу Сталіну", складзеная трыма.***

***У час вайны і пасля яе традыцыя калектыўна-гуртавой творчасці працягвалася. У 1944 годзе новы "Гімн СССР" на беларускую мову пераклалі гуртам учатырох. Да 30-годдзя БССР паэму-оду "Ад усяго сэрца" складалі ўжо ўсемярых. У 1977-м удасканалены тэкст "Гімна СССР" быў яшчэ раз перакладзены на беларускую мову гуртам з шасці майстроў.***

***У літаратуры традыцыі перарывацца не павінны. Тым больш у краіне, дзе ўвогуле вернасць ідэалам даваеннай і пасляваеннай пары — сёння компас і сцяг для ўсяго грамадства. І мы не здзівіліся, калі ў наш рэдакцыйны партфель трапіла паэма, падпісаная шасцю аўтарамі. Пэўна, па ўзоры папярэднікаў, сабраліся ў гурт песняры нашай сучаснай гераічнай рэчаіснасці і разам, супольнымі высілкамі, напісалі паэму, у аснове якой — народная казка-легенда аб незвычайнай эпідэміі ў старажытнай Тутэміі. Імёны гэтых песняроў, за выняткам хіба што апошняга, чытачам беларускай паэзіі добра вядомыя. Гэта — Францішак Вядзьмак-Лысагорскі, Баркулаб Дамавік-Крывіцкі, Базыль Раскапэнда-Бабэцкі, Вавіла Ваймяцца, Зімавей Зюзя і Амільлян Заткала-Задняпроўскі.***

***Прапануем твор увазе нашых чытачоў.***

# СКАЗ
# АБ НЕЗВЫЧАЙНАЙ ЭПІДЭМІІ Ў СТАРАЖЫТНАЙ ТУТЭМІІ

Хоць і ня сьведчаць летапісцы —
Легенда з даляў даплыла:
На ўсход ад Ляхіі калісьці
Зямля Тутэмія была.

А людзі зваліся тутэмцы,
Або тутэйцы — так і сяк.
Хацелі жыць не горш як немцы —
Жыцьцё ж ішло ў іх наўскасяк.

Калі ж зусім папёрла ўмітусь —
Пайшлі да старца Базыля
Івась, Лявось, Ляксандусь, Вітась
І нехта Пяты Без Імя.

Сем дзён ішлі, як на малебен.
Прыйшлі і кажуць: "Памажы!
Нам для парадку цар патрэбен.
Каго царом абраць, скажы?

Усе тутэмцы сёньня мараць
Пра бацьку. Хто ён? Абазнач!.."
І адказаў ім мудры старац —
Вядомы ў краі прадказач:

"Шукайце тога, што з маленства,
Яшчэ як быў гадоў сямі,
Набыў і корць, і спрыт, і ўмельства
Катацца верхам на сьвіньні;

Што любіць спаць у пірамідзе,
А клічку мае — Васісёр.
Знайдзіце, трохі перамыйце
Ды й выбірайце. Вось і ўсё".

"А дзе жыве, ў якой акрузе?"
"Я ўсё сказаў вам. Прэч і вон!"
Паслы заткнуліся і ў скрусе
Пайшлі, адвесіўшы паклон.

Ідуць, грызуць ад думак кіпці:
"Дзе ж піраміда тая — дзе?
Няўжо яна аж у Егіпце?
Няўжо бліжэй няма нідзе?"

Ідуць, мінаюць краявіды.
І раптам выгукнуў Івась:
"Браткі! А вунь дзе піраміды!
Ура, сябры! Віншую вас!.."

Сябры зірнулі на лагчыну,
Дзе туманок яшчэ стаяў.
"Ты ёлуп, Ванька, не па чыну:
За піраміду стог прыняў!"

І ўсё ж пайшлі бліжэй да стога.
Глядзяць: на поплаве наўкруг
Кароў і коз пасецца многа,
А ў стозе спіць-храпе пастух.

Патармасіць прыйшлося трохі.
Той вочы п'яныя працёр.
"Ты хто такі?" — "Я? Сын эпохі!"
"А як завешся?" — "Васісёр".

"Што?! — разам ахнула каманда. —
Ты — Васісёр?!" — "А што за здзіў?"
"Скажы, нам ведаць трэба надта:
Ты... на сьвіньні гайсаць любіў?"

"Калі малы быў сьвінапасам —
Дык а чаго ж! Дурэў і я.
І на свіньню садзіўся часам,
І нават раз на бугая..."

Пераглянуліся тутэмцы,
І прашаптаў сябрам Лявось:
"Каб не змыліцца ўсё ж, хадземце —
Хай вёска скажа, хто ён ёсьць".

Знайшлі самога аканома,
І той пацвердзіў ім: "Ну так:
Ён — Васісёр! І ўсім вядома,
Які ў махлярстве ён мастак".

"Прашу прабачыць: у малярстве?" —
Перапытаў яго Івась.
"Ды не ў малярстве, а ў махлярстве!
Яго малярства — бруд і гразь.

Людзей сумленных і шляхетных
Не церпіць нават і з радні.
А хлус — ну проста несусветны!
А звадыяш — няма раўні!

А злодзей — нават пакішэнна
Абчысціць чыста, як факір!
Таленавіты, гад, страшэнна!
Хаця глузды і на бакір.

А ў часе спрэчкі мае моду,
Як толькі што не па нутру —
Дык кулачышчам тут жа ў морду!
А кулачышчы — па вядру".

Пераглянуліся тутэмцы,
І мовіў Пяты Без Імя:
"Ну й што? Як пелі віфлеемцы:
Усё ад Бога, акрамя.."

Тут арканом яшчэ падсыпаў:
"А што ўжо лодар і гультай —
Дык свет не бачыў гэткіх тыпаў!
Адно крычыць: пасаду дай!

Ну й вось — уважылі латругу:
Другі ўжо год у пастухах.
І так у ход пускае пугу —
Што ўсе каровы ў пісягах!.."

Пераглянуліся тутэмцы,
І мовіў Пяты Без Імя:
"Ну й што? Усе мы спадкаемцы
Пісяжнай ласкі бізуна".

Сумненне ў Вітася засела:
"Але ці добра, што цара
Мы адкапалі ў стозе сена?
Ці ён прыдасца да двара?"

Лявось дадаў: "Так, так! Ёсць людзі —
Што хоць яго ты мёдам маж,
А ўсё смярдзець ён дзёгцем будзе!
Ці не такі і гэты наш?.."

"Аслы! — сярдзіта мовіў Пяты. —
Няўжо не кеміце, што ён
Служыць нам будзе як наняты?
Што будзе нам належаць плён?"

"Тады хутчэй да Васісёра! —
Гукнуў Івась. — Бяжым, сябры!"
І вось прымчаліся пяцёра,
А ён — у той жа ўсё нары.

"Гэй, баця! Гэй! Вылазь са стога!
Вылазь! Прыйшла твая пара!
Цябе, са згоды пана Бога,
Рашылі мець мы за цара!

Пакуль народ не выбраў Зеньку —
Займай пасад! Ідзі на трон!
З табой, пацiху-памаленьку,
Мы ўсёй Эўропе нос утром!"

"Мяне на трон? Ды што за жарты?
Царом дзяржавы? Мама-ляць!
Да я і з пугай ніц не варты,
Як людзі ў вёсцы гавараць!"

"Цябе, цябе! Ты — самы лудшы! —
Пацвердзіў Пяты Без Імя. —
І ад цябе народ аблудшы,
Празрэўшы, будзет без ума!"

"Ну што ж! Калі такая справа —
Я згодзен. Згодзен на цара!.."
Тутэмцы выгукнулі "брава"!
І тройчы крыкнулі "ура!".

"Січас жа едзем у сталіцу —
Не сірацела каб зямля!
А як жану сваю — царыцу?
Бярэш адразу? Ці пасля?"

"Нашто не тэпала Магдуся!
Няўжэлі, будучы царом,
Я без яе не абыйдуся?
Каб учыняла мне пагром?

Усё жыццё, калі на фэстах
Я бачыў гнуткіх маладух, —
Мяне такім азартам трэсла —
Аж біў у храпы воўчы дух!

Я думаў: эх, каб мець уладу!
Я б кожны дзень ішоў на грэх!
Я б гэх! — і кожнай па акладу!
І па акладу! — кожнай! — гэх!.."

"Ды будзеш, баця, будзеш гэхаць! —
Запэўніў Пяты Без Імя. —
Цяпер збірайся! Трэба ехаць!
Дзяржава гіне без руля!"

Івась як вопытны шталмайстар
Прыгнаў аднекуль фаэтон,
І Васісёр ад пугі з кайстрай
Папёр займаць тутэмскі трон.

Імчаў праз вёскі і мястэчкі,
Ва ўсіх тутэмцаў на віду,
І ўсё шаптаў: "Ну, чалавечкі,
Я вам парадак навяду!

Цяпер я вашу Прасьвятую
Да дна сумею скалануць!
Усё ўзарву! Усё ўзбунтую!
Усё зьмяшаю ў каламуць!

Перасвару дзяцей з бацькамі,
Сто бочак бздур нагавару,
І, як з насесця па змярканьні,
Пачну вам с... на галаву.

А пікне хто — я ў грызла вехаць!
Па ўсёй дзяржаве, мама-ляць,
На дурні дурань будзе ехаць
І круглым дурнем паганяць!.."

Вядома, мар сваіх ні словам
Нідзе не выдаў Васісёр,
І гурт у краі безгаловым
Яго на трон дзяржаўны ўспёр.

Тады ж і сталі царскай сьвітай
Паслы да старца Базыля:
Івась, Лявось, Ляксандусь, Вітась
І нехта Пяты Без Імя.

Праз дзень, аддыхаўшыся ледзьве,
Распараджэньне выдаў цар:
"Хачу зямлю сваю агледзець —
Якіх я скарбаў гаспадар?

Паколькі з "вочкамі" яешня —
Мая любімая яда, —
Пачну з куратнікаў, канешне,
З агляду кожнага гнязда!

Івась! Карэту! На рысорах!
На залатых прашу падаць!.."
І вось прывезлі Васісёра
Куратнік царскі аглядаць.

І ўжо з варот, б'ючы паклоны,
Бяжыць Галоўны Курашчуп,
А сам ад страху — утрапёны
І сіні, як курыны пуп.

"О цар! З курамі стала нешта:
Усіх кульнула дагары!
Хвароба нейкая, канешна,
А што — не ясна, хоць памры!

Кацьма качаюцца! І ў клетках,
І на двары, і на гняздзе.
О вашамосць! Дзівосаў гэткіх
Не бачыў зроду я нідзе.

Спачатку мне было здалося,
Што гэта з голаду яны,
І я, дадаўшы ў ячку проса,
Ім рацыён зрабіў двайны.

І тут... О цар! Мне жудка стала:
Яны паўскоквалі з зямлі,
Усё здзяўблі, як не бывала,
І зноў качацца пачалі!.."

"Ну-ну! — спахмурыў зірк бычыны
І сам да клетак рушыў госьць. —
А крык чаму ў іх не курыны?"
"Яны рагочуць, вашамосць!"

"Рагочуць? Как эта — рагочуць?
Ведзь эта ж куры, мама-ляць!
Яны кудахчуць і сакочуць!
Яны не могут рагатаць!

Рагочуць людзі — гэта ясна.
Яшчэ рагочуць жарабкі.
Ты, курашчуп, не корчы блазна,
А гавары мне напрамкі!

Дапусцім, нават і ад сьмеху
Яны качаюцца ў цябе.
Ну, а чаго? Каму на ўцеху?
Якой варожай гальцьбе?"

"О цар! Не гневайся дарэмна
І не трымай на сэрцы зла:
Напэўна гэта эпідэм'я —
Хвароба гэткая найшла.

Бо мне данесьлі з агентуры,
Што і ў суседзяў за ракой
Другі ўжо дзень рагочуць куры
І ўсе ў пазіцыі такой..."

"Івась! Хутчэй сюды карэту!
І на куратнік — за раку!
Убачу й там карціну гэту —
Не пападайся пад руку!.."

І вось ужо бяжыць да брамы
Другі Галоўны Курашчуп,
А выгляд — рыхтык той жа самы:
Ад страху сіні ўвесь як пуп.

"Дзе куры?!" — грымнуў цар з прысьпеху.
"Бяда з курамі, вашамосць:
Усе качаюцца ад сьмеху!
Усе да званьня колькі ёсьць!

Рагочуць нават кураняты,
Задраўшы ножкі дагары.
Склююць тварог, зьдзяўбуць зярняты —
І зноў! — каршун іх задзяры!.."

"Што-што? Здзяўбуць усё і ў рогат?
Такая ўдзячнасьць за фураж?
Ды гэта ж... гэта ж не хвароба,
А самы подлы сабатаж!"

"О цар! Тут ходзяць пагалоскі,
Што гэта справа Сатаны.
Няма наўкруг ніводнай вёскі,
Дзе б не качаліся яны.

Як толькі певень галагуцкі
Штось кукарэкне чарадзе —
Іх тут жа сьмех бярэ нялюдскі,
Ды так — што покатам кладзе!"

"А што ён, што ён, чорт ці певень,
Ім кукарэкае, лайдак?"
"О цар! Я ў мове іх не пэвен.
Я і з тутэмскай не ў ладах.

*(Працяг на стар. 15)*

*ру і чытаў свае вершы. Ён уважліва выслухоўваў, рабіў заўвагі, што і як трэба паправіць. Як дарагога, жаданага госця я сустракаў Я. Купалу ў сваёй хаце. Гутаркі з ім узбагачалі мяне духоўна, спрыялі майму творчаму росту..."*

Друкавацца пачаў з 1921 г. (верш "Да моладзі"). У сваіх вершах услаўляў рэвалюцыйныя пераўтварэнні, будаўніцтва сацыялізму, будні рабочага класа, класавую барацьбу, дружбу народаў.

А. Александровіч — адзін з арганізатараў (разам з А. Бабарэкам, А. Вольным, А.Дударом, Я. Пушчам, М. Чаротам) літаратурна-мастацкага аб'яднання "Маладняк" (1923г.)

У 1925 г. — рэдактар часопіса "Малады араты", клімавіцкай акруговай газеты "Наш працаўнік", затым намеснік рэдактара газеты "Чырвоная Полаччына" і адказны сакратар акруговай нацыянальнай камісіі.

А. Александровіч — аўтар "ліста 3-х" (разам з А. Дударам і М. Зарэцкім), які быў апублікаваны ў "Савецкай Беларусі" 4 снежня 1928 г. Ліст прагучаў як пратэст супраць тых, хто пагардліва адносіўся да беларусізацыі і беларускіх пісьменнікаў.

У 1930 г. Александровіч скончыў універсітэт, уступіў у партыю. З 1936 г. акадэмік АН БССР. Трыццатыя гады былі для яго гадамі актыўнай творчай і грамадска-партыйнай работы.

У 1938 г. рэпрэсаваны. Жыў на Крайняй Поўначы, працаваў на будаўніцтве Нарыльскага металургічнага камбіната, на лесанарыхтоўках. У 1955 годзе быў рэабілітаваны, вярнуўся у Мінск.

**Смоліч Аркадзь Антонавіч** нарадзіўся ў 1891 г. у в. Бацэвічы Клічаўскага р-на. Вучоны ў галіне эканомікі, сельскай гаспадаркі, картаграфіі, пачынальнік геаграфічнай навукі на Беларусі. У 1916 г. скончыў Нова-Александрыйскі інстытут сельскай гаспадаркі і лесаводства ў Пулавах. З 1910 г. — член Беларускай сацыялістычнай грамады (з 1917 г. — член ЦК), рэдагаваў газету "Грамада". З 1916 г. у Мінску, удзельнічаў у рабоце "Беларускай хаткі". Адзін з арганізатараў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі ў 1918 г. (пасля расколу БСГ). Праект праграмы БСДП складзены Смолічам у 1919 г. Асноўныя прынцыпы БСДП — свабода, роўнасць, братэрства, дэмакратыя, прававая дзяржава. Дзейнасць партыі была спынена арыштам яе актывістаў у 1921 г.

У 1918 г. А. Смоліч прымаў удзел у стварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі (з 1919 г. — нам. старшыні Рады), народны сакратар асветы ў 1-м урадзе БНР. Намеснік старшыні Цэнтральнай беларускай школьнай рады, уваходзіў у склад Найвышэйшай рады БНР. Адзін з заснавальнікаў ТБШ (1921 г.) У 1919—1922 гг. — у Вільні. З 1922 г. — у Наркамземе Беларусі, старшыня Цэнтральнага краязнаўчага бюро Беларусі. З 1925 г. намеснік старшыні Інбелкульта, дацэнт (з 1923 г.), прафесар, загадчык кафедры БДУ. А. Смоліч — аўтар першага падручніка па геаграфіі Беларусі (тры выданні выйшлі ў Вільні), забароненага ў 1925 г.

Рэпрэсаваны ў 1930 і 1937 гадах. Расстраляны 17 чэрвеня 1938 г. Рэабілітаваны ў 1957 г.

**Дзямідовіч Алесь Піліпавіч** нарадзіўся ў 1897 г. у Капылі ў сям'і селяніна. Звестак аб адукацыі няма. Да 1916 г. працаваў рабочым у краўца ў Капылі. У 1916 г. прызваны ў армію радавым, у канцы года дэмабілізаваны па хваробе. З вясны 1917 г. — у Маскве, працаваў ва ўсерасійскім спажывецкім таварыстве і вучыўся ў рабочым політэхнікуме. Член БСГ, потым БПСР. З 1919 г. — у Мінску, у канторы таго ж таварыства. У пачатку белапольскай акупацыі быў партызанам на Случчыне, потым зноў у спажывецкім таварыстве ў Мінску, у НКЗ.

У сакавіку 1921 г. быў арыштаваны разам з іншымі як член партыі беларускіх эсэраў. Вершы пачаў пісаць з 1916 г. Друкаваў іх у "Дзянніцы" (у 1918 г.).

У 1921 г. А. Дзямідовіч паступіў у Мінскі сельгасінстытут. На афіцыйным адчыненні інстытута 7 лістапада 1922 г. выступіў з прамовай да студэнтаў. Газета "Савецкая Беларусь" змясціла толькі яго прамову, хоць выступоўцаў было многа і больш знакамітых, чым Дзямідовіч (А.Чарвякоў, А.Славінскі, С. Скандракоў, С. Кірсанаў і іншыя).

А . Дзямідовіч быў сярод тых, хто падпісаў Дэкларацыю аб роспуску эсэраўскай партыі, прысутнічаў на з'ездзе ў чэрвені 1924 г., калі было прынята гэтае рашэнне.

Уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне "Маладняк" (Аршанская філія). Прысутнічаў на І з'ездзе "Маладняка" ў лістападзе 1925 г.

Пасля заканчэння Горацкага сельгасінстытута працаваў у Лошыцы, у Навукова-даследчым інстытуце сельскай гаспадаркі, пасля курсаў у Маскве па бульбаводстве (1927 г.) працаваў на бульбаводчай станцыі. Займаўся селекцыяй і генетыкай бульбы.

Арыштаваны 19 ліпеня 1930 г. па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Абвінавачваўся ў тым, што *"ў 1923—24 гг. уступіў у сельскагаспадарчую секцыю контррэвалюцыйнай нацыянальна-дэмакратычнай арганізацыі СВБ, якая дзейнічала пад знешняй формай секцыі Інбелкульта, вёў прапаганду сваіх ідэй, стварыўшы Горацкае навуковае таварыства — філіял ІБК. Працуючы ў Інстытуце, прыцягваў у Інстытут нацдэмаў і выконваў шкодніцкую работу".*

Асуджаны на 5 гадоў высылкі. Далейшы лёс невядомы.

Самай таямнічай асобай сярод заснавальнікаў была Панамарова Наталля Васільеўна, якая на адным з дакументаў распісалася невыразна, так што можна было прачытаць прозвішча яе як Панамароў. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што сакрэтны аддзел ДПУ яе "палітфізіяномію" не змог выявіць.

**Панамарова Наталля Васільеўна** нарадзілася ў 1897 г. у Мінску. Бацька — дваранін, працаваў служачым на чыгунцы. Пасля заканчэння Мінскай жаночай гімназіі і дадатковага педагагічнага класа, атрымала званне хатняй настаўніцы. У тым жа годзе сям'я эвакуіравалася ў Калугу. З кастрычніка 1917 г. па верасень 1920 г. Панамарова працавала ва ўпраўленні Сызраньска-Вяземскай чыгункі.

У 1920 г. сям'я вярнулася з эвакуацыі. Бацькі ўжо не было, на руках у Наталлі былі маці, бабуля і цётка. З 1 снежня 1920 г. працавала справаводам у літаратурна-выдавецкім аддзеле Наркамасветы. На работу яе прыняў сам Янка Купала, як намеснік загадчыка аддзела. У маі 1921 г. скончыла 9-месячныя курсы беларусазнаўства. Са студзеня 1921 г. — сакратар дзіцячага часопіса "Зоркі". Пісала вершы ("Восень", "Старая хатка") і апавяданні для дзяцей, друкавала іх у гэтым жа часопісе, а таксама ў газеце "Вольны сцяг", якую рэдагаваў Я. Купала. З верасня 1921 г. Панамарова — кіраўніца спраў Акадэмічнага цэнтра пры Наркамаце асветы. Акрамя гэтага — лектар і загадчыца курсаў для супрацоўнікаў наркамата і лектар на 12-месячных курсах дашкольнага выхавання. З чэрвеня 1922 г. з'яўлялася сакратаром інспекцыі навуковых устаноў Наркамасветы, памочнікам сакратара Галоўпрафасветы. У 1922 г. паступіла ў БДУ, на этнолага-лінгвістычнае аддзяленне, але *"выбыла па ўласнай заяве"*. З кастрычніка 1924 г. — справавод Інстытута беларускай культуры. Праз месяц піша заяву аб пераходзе ў Белдзяржвыдавецтва на пасаду карэктара. Далей сляды яе губляюцца. Адзін з дакументаў, выяўленых у Нацыянальным архіве, выводзіць нас на яе след. Гэта ліст Н. Панамаровай да Ігнатоўскага, прэзідэнта АН Беларусі: *"Паважаны Усевалад Макаравіч! Выбачайце, што турбую Вас, але асабіста ніяк не магу пабачыць... Да Вас вялікая просьба ад імя Кастравіцкай (Казанцовай) жонкі. Яна сама ніяк ня можа дабіцца, у якім стане яе справа — нервуецца, плача і больш нічога. Можа Вы будзеце ласкавы, даведаўшыся, перадаць ёй праз мяне адказ. З пашанаю Н. Панамарова. 14. III. 1930 г." Роўны, прыгожы, упэўнены почырк. Невядома, ці выканаў просьбу Усевалад Макаравіч, але 13 студзеня 1931 г., калі ўлады збіралі кампрамат на яго, нейкі В. Серафімаў перадаў гэтую запіску з наступным суправаджэннем: "Дасылаю... яшчэ адзін дакумент, які характарызуе Ігнатоўскага ў яго спачуванні і сувязі з арыштаванымі нацдэмамі (Казанец)"*. Больш ніякіх звестак пра далейшы лёс Наталлі Панамаровай намі не выяўлена.

Як бачым, у літаратурную суполку "ВІР" хацелі аб'яднацца людзі розных заняткаў, рознага ўзросту. Яны сустрэліся і пазнаёміліся на працы ў культурна-асветных установах (у рэдакцыях газет, у "Беларускай хатцы", Наркамаце асветы і Акадэмцэнтры). Некаторыя жылі па суседстве. Усіх іх аб'ядноўвала любоў да Бацькаўшчыны, беларуская справа. Іх "палітфізіяноміі", вядома ж, былі недаспадобы бальшавіцкай уладзе. І як вынік — літаратурнае аб'яднанне "ВІР" не было зарэгістравана.

**Аляксандра ГЕСЬ**

Пераклады

Пятро ГАРЭЦКІ

# ЦЁЦЯ УЛАДЗЯ

## ДА 105-ых УГОДКАЎ

**"Цёця Уладзя", —**
**Так яе звалі.**
**Да скону верная**
**Жонка Купалы.**

**Яна падзяляла**
**З ім творчыя мукі,**
**І радасць, і шчасце,**
**І горыч разлукі.**

**А ў час, як над Янкам**
**Цянёты звісалі,**
**Знаходзіла словы,**
**Што боль суцяшалі.**

**Яна, быццам яснае сонца,**
**Натхняла,**
**Каб песня лілася**
**З грудзей у Купалы.**

**Яго пабрацімы**
**Усе яе знаді**
**І цёцяю цёпла**
**Заўжды называлі.**

**Казалі,**
**Яе дружалюбнасць — святая.**
**Зайздросцілі Янку,**
**Што жонка такая...**

**Кацілася грозна**
**Айчыннай навала...**
**Сяброўка дзялілася**
**З горам Купалы.**

**А боль не сціхаў яго**
**Ў дні агнявыя.**
**На ворага слаў ён**
**Радкі баявыя,**

**Што разам з салдатамі**
**Ў бойку спяшалі.**
**Ў вянку Перамогі**
**Ёсць доля Купалы.**

**Гады прамінулі.**
**Вайна хай не сніцца.**
**Як памяць Паэту —**
**Музей у сталіцы.**

**Калі аглядаю**
**Святлістыя залы,**
**Ну, як тут не ўспомніць**
**І жонку Купалы!**

**Сяброўкай была,**
**Ды ў якой крутаверці...**
**І разам з Паэтам**
**Ідзе — у бяссмерце.**

**Пераклаў з украінскай мовы**
**Юрась СВІРКА**

# СКАЗ

## АБ НЕЗВЫЧАЙНАЙ ЭПІДЭМІІ Ў СТАРАЖЫТНАЙ ТУТЭМІІ

*(Працяг. Пачатак на сатр. 13)*

**Хоць і вучыў калісьці ў школе,**
**А — не адолеў. Не ў сілох!**
**Ну, а курыную тым болей**
**Уразумець не даў мне Бог".**

**"Ах, ты не здатны да навукі?**
**Ці — атлусьцеў тут церасчур?**
**Дык вось: бяры рыдлёўку ў рукі —**
**І марш! Ты больш не курашчуп!**

**Гей, сьвіта! — зіркнуў цар спадлоб'я. —**
**Курэй пасекчы — і канец!"**
**"Дык а... без яйцаў — як? Ці добра?"**
**"Не страх! Пабудзем без яец!**

**Вы што — яічніцы хаціце?**
**А ну-ка выйдзі, хто хаціт!**
**Не бачу! Што — у цэлай свіце**
**Прапаў імгненна апяціт?**

**Калі хто вочань з вас разумны —**
**То я січас вам іспяку!**
**Такую выдам вам "глазунню",**
**Што не ядалі на вяку!..**

**Івась! Падаць сюды карэту!**
**Тут болей нечага мадзець!**
**Хачу другую здзейсьніць мэту —**
**На дойны статак паглядзець".**

**Вось едзе цар і шыр-прасторам**
**Настрой лагодзіць пакрысе.**
**Глядзіць: пастух ляжыць пад стогам,**
**А статак — пасвіцца ў аўсе!**

**"Ён што — не бачыць, што скаціна**
**У шкоду ўлезла, мама-ляць?**
**Такога сукінага сына**
**За гэта мала расстраляць!"**

**"Ды ён заснуў, ён сьпіць, напэўна", —**
**Сказаў Івась, каб дагадзіць.**
**Цар бліснуў буркаламі гнеўна:**
**"Січас жа гада разбудзіць!**

**Нагой, нагой яму пад рэбры!**
**Цягні ка мне за капыты!..**
**Ты хто?" — спытаў яго вялебны.**
**"Я — Васісёр, пастух. А ты?"**

**Цар так разявіў рот шырока —**
**Як шэры воўк на казляня.**
**Да пастуха ж у момант вока**
**Падскочыў Пяты Без Імя.**

**"Ты — Васісёр?" — "Адроду гэтак**
**Завуць — і ў вёсцы, і ў сям'і".**
**"А як яшчэ быў малалетак —**
**Ты ездзіў верхам на свінні?"**

**"Го! Тут усім даваў я фору!**
**Усьсяду, бліжай да хваста,**
**Як улюлюкну, як прышпору —**
**Хаўроньня прэ наўскапыта!.."**

**Тады трыкроць перажагнуўся**
**(Не пяцярнёю, а трыма)**
**І да каманды павярнуўся**
**Мардаты Пяты Без Імя:**

**"Сябры! Далі мы маху з вамі!**
**Вось — цар наш! Вось наш Васісёр!**
**А гэты... гэта ж самазванец,**
**Што сам сябе на трон усьпёр!**

**Хапайце гіцаля, хапайце!**
**Вяжыце ногі, каб ня зьбег!**
**Дык вось чаму звяліся яйцы!**
**Чаго курэй качае сьмех!.."**

**Сябры скруцілі недарэку**
**І, пацягаўшы па зямлі,**
**На воз кульнулі. А ў карэту**
**Ужо другога павялі.**

**За імі ценем крочыў ззаду**
**Шчаслівы Пяты Без Імя:**
**"Ну вось, цяпер у іх за ўладу**
**Пачнецца лютая грызьня.**

**Пакуль яны паміж сабою**
**Перагрызуцца — я займу —**
**Без перашкод, без страт, без бою —**
**Усю Тутэмскую зямлю".**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**Даўно згубіліся ў стагоддзях**
**Цары Тутэміі... А сказ**
**Пра эпідэмію смяхоцця —**
**Жыве. Дайшоў вось і да нас.**

**Францішак ВЯДЗЬМАК-ЛЫСАГОРСКІ**
**Баркулаб ДАМАВІК-КРЫВІЦКІ**
**Базыль РАСКАПЭНДА-БАБЭЦКІ**
**Вавіла ВАЙМЯЦЦА**
**Зімавей ЗЮЗЯ**
**Амільліян ЗАТКАЛА-ЗАДНЯПРОЎСКІ**

# СТАЛА СВАЁЙ БЕЛАРУСЬ

для вядомага татарскага паэта, празаіка і перакладчыка Закі Нуры. Парадніўся З. Нурутдзінаў — такое яго сапраўднае прозвішча — з беларускай зямлёй яшчэ ў гады Вялікай Айчыннай вайны, калі быў падрыўніком, а пасля начальнікам разведкі І-айлартызанскай брыгады імя К. Заслонава, якая дзейнічала на тэрыторыі Віцебшчыны. Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944—1946 гадах З. Нуры працаваў намеснікам старшыні Аршанскага гарвыканкама. Дарэчы, у 1975 годзе яму было прысвоена званне ганаровага грамадзяніна Оршы.

Тэма Беларусі, барацьба з фашызмам на акупаванай ворагамі тэрыторыі знайшла належнае месца ў творчасці З. Нуры. Найперш гэта тычыцца кнігі прозы "І мёртвыя помсцілі", якая вытрымала два выданні — у 1962 годзе і ў дапрацаваным выглядзе ў 1976-ым.

З. Нуры прысвяціў творчасці Я. Купалы артыкулы "Паэт-патрыёт беларускага народа", "Янка Купала і яго творчыя нашчадкі", "Вялікі і бязмежны", пераклаў на татарскую мову шэраг твораў Я. Купалы і Я. Коласа.

Вершы ж самога З. Нуры па-беларуску загучалі (як у перыёдыцы, так і ў кнігах) дзякуючы Р.Барадуліну, Х. Жычку, В. Зуёнку, У. Паўлаву, К. Камейшу, М. Маляўку, Ю. Свірку і іншым.

У гэтыя дні нашаму татарскаму сябру спаўняецца 75 гадоў. Віншуем яго з днём нараджэння, зычым новых жыццёвых і творчых поспехаў!

СКОНЧЫЛАСЯ чарговая (і вельмі паспяховая) гастрольная вандроўка нашай акадэмічнай балетнай трупы. Гэтым разам — у Японію.

Ужо шмат гадоў існуюць трывалыя творчыя сувязі паміж Беларуссю і Японіяй у галіне харэаграфіі. У нашым харэаграфічным каледжы займаюцца японскія балерыны. Яны ж стажыруюцца ў балетнай трупе Дзяржаўнага тэатра музкамедыі. У Краіне Узыходзячага Сонца выступалі вядучыя саліс-

Але больш падрабязна пра саму вандроўку. З Мінска ў Японію выправілася амаль восемдзесят чалавек — кіраўніцтва трупы, 30 балерын і 30 танцоўшчыкаў, прадстаўнікі тэхнічных службаў. Адна гадзіна палёту да Масквы, перасадка ў камфартабельны аэробус, які змяшчае больш як трыста пасажыраў, і праз 11—12 гадзін беспасадачнага пералёту — праз палову зямнога шару — даляцелі да Токіо.

За дваццаць два дні знаходжання ў краіне нашы артысты далі чатырнаццаць спектакляў.

шлаг, хаця глядзельныя залы ўмяшчалі да 2 тысяч гледачоў, а білеты каштавалі 150 долараў.

Паказы "Дон Кіхота" былі адметныя тым, што галоўныя партыі Кітры і Базіля, згодна ўмовам японскага імпрэсарыо, выконвалі зоркі парыжскай "Гранд-Опера" Мары-Клод Пеграгала, якая лічыцца этуаллю (вышэйшая адзнака ў французскім балеце), і Нікаля ля Рыш. Апошні, дарэчы, вясной 1995 года быў ганараваным прызам Міжнароднай асацыяцыі дзеячаў харэаграфіі "Бенуа дэ ля дэнс", як і наш Валянцін

балерыны нашай трупы Інесы Душкевіч. Водгукі крытыкі былі захопленыя. Нават імпрэсарыо, які наладжваў гастролі, прызнаваўся, што Джульета — Душкевіч расчуліла яго да слёз...

У першай палове гастроляў беларускі балет працаваў у Токіо, а пачынаючы з 17 лістапада спектаклі ішлі ў іншых гарадах, куды артыстаў вазілі на аўтобусе, а вечарам яны вярталіся ў сталіцу ў свой атэль. Графік рэпетыцый і спектакляў быў такі напружаны, што на знаёмства з прыгожай і экзатычнай краінай заставалася вельмі ма-

# ЯПОНІЯ ВІТАЛА БЕЛАРУСКІ БАЛЕТ

ты акадэмічнай трупы Інеса Душкевіч і Веніямін Захараў. Некалькі гадоў таму мастацкі кіраўнік беларускага балета Валянцін Елізар'еў быў запрошаны ў Нагою на міжнародны балетны конкурс ў якасці члена журы.

Падрыхтоўка да гастроляў беларускай балетнай трупы ў Японіі пачалася яшчэ некалькі гадоў назад, калі японскі імпрэсарыо прыехаў у Мінск, каб паглядзець балетныя спектаклі "ўжывую". Разам з ім прыехала яшчэ сем чалавек, сярод якіх быў і лепшы японскі балетны фотамайстар. У сувязі з гастролямі ён мусіў выканаць альбом каляровага фота.

Японцы сапраўды рыхтаваліся вельмі старанна. І справа не толькі ў тым, што імпрэсарыо гэтай краіны лічацца найбольш багатымі ў свеце, а іх ганарары перавышаюць амерыканскія ў некалькі разоў. Не толькі ў тым, што адзін авіябілет да Японіі каштуе 3 тысячы "зялёных", а шматтонныя дэкарацыі спектакляў "Рамэо і Джульета", "Дон Кіхот" і "Спартак" павінны былі дастаўляцца морам — праз Гамбург, Балтыйскае мора, Атлантыку, Суэцкі канал, Індыйскі акіян... І шлях гэты займае амаль два месяцы... Галоўнае ў тым, што такая гастрольная вандроўка і такое запрашэнне — справа прэстыжу. Бо японцы, не маючы стацыянарных балетных труп, увесь час запрашаюць да сябе буйнейшыя музычныя тэатры і найбольш знакамітыя харэаграфічныя калектывы з усяго свету.



Гастролі пачаліся ў сталіцы 8 лістапада балетам "Рамэо і Джульета". Галоўныя партыі танцавалі Інеса Душкевіч (Джульета), Веніямін Захараў (Рамэо), Руслан Мінін (Тыбальд), Аляксандр Фурман (Меркуцыо), Таццяна Шаметавец (сеньёра Капулеці). Такі ж склад выканаўцаў захоўваўся і ў наступных спектаклях у гарадах Кобе, Дзю, а таксама Іакагама і Ішыкава — гарадах-спадарожніках дванаццацімільённага Токіо. Толькі на адным паказе "Рамэо" замест В. Захарава выступіў У. Даўгіх. На ўсіх спектаклях нашай трупы быў ан-

Елізар'еў, толькі ў іншай намінацыі — "мужчынскі танец". Французы ўдзельнічалі ў чатырох "Дон Кіхотах", у апошнім, пятым, іх змянілі нашы лаўрэаты міжнародных конкурсаў Кацярына Фадзеева і Веніямін Захараў. Іншыя партыі ў гэтым "шматнаселеным" балеце выконвалі беларускія артысты.

Завяршалі гастролі два паказы балета "Спартак" з такім складам выканаўцаў: В. Захараў (Спартак), І. Душкевіч (Фрыгія), Р. Мінін (Крас). Асаблівы поспех у японскіх знаўцаў харэаграфічнага мастацтва выпаў на долю прыма-

ла часу. У праграму знаходжання беларускіх артыстаў у Японіі была ўключана толькі адна экскурсія.

Наша балетная трупа выступала з японскім аркестрам — "The Tokyo New City Orchestra" Праўда, дырыжоры былі свае — Андрэй Галанаў — у "Рамэо і Джульеце" і Мікалай Калядка — у "Дон Кіхоце" і "Спартаку" Першаму паказу пракоф'еўскага балета папярэднічала аркестравая рэпетыцыя, якая доўжылася цэлы дзень...

За два дзесяцігоддзі беларускі балет пабываў у многіх краінах свету, таму ў яго кіраўніцтва і артыстаў ёсць магчымасць параўноўваць. Сцэнічныя пляцоўкі, на якіх даваўся выступаць нашым балерынам і танцоўшчыкам, абсталяваны не проста па апошнім слове тэхнікі, яны літаральна начынены электронікай, камп'ютэрамі, маніторамі. Напрыклад, рэжысёр, які вядзе спектакль і знаходзіцца за кулісамі, бачыць на некалькіх маніторах тое, што адбываецца на сцэне, але з розных кропак — цэнтра партэра, справа, злева, зверху. Разам з тым у некаторых тэатральных будынках захоўваюцца і ручныя спосабы працы, што дазваляе дасягнуць — у адрозненне ад камп'ютэрнага кіравання — рознай хуткасці ў перамене дэкарацый і асаблівых сцэнічных эфектаў.

Кіраўніцтва беларускай трупы сцвярджае, што такія пляцоўкі, на якіх працавалі ў Японіі, у Еўропе можна пералічыць па пальцах. Толькі ў адным горадзе сцэна была крыху меншая за нашу, а ў астатніх — большых памераў.

Будынак у Токіо, дзе паказвалі "Спартак", знакаміты тым, што сюды прыязджаюць працаваць усе тэатры свету. Сярод калектываў былога Савецкага Саюза — найчасцей Вялікі тэатр, Марыінскі, Кіеўскі. А за кулісамі ў вялікіх "кішэнях" сцэны на сцяне і на калонах пакідаюць свае аўтографы ўсе гастралёры. Застаўся там і надпіс — "беларускі балет"...

У Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі ў гэтым сезоне вельмі напружаны графік. Пасля нядаўняй прэм'еры дзіцячага балета "Доктар Айбаліт" калектыў выправіўся на гастролі ў Галандыю і Бельгію, якія будуць доўжыцца да канца года.

Не менш багаты на творчыя вандроўкі чакаецца і наступны год. З 18 лютага па 4 сакавіка пройдуць гастролі ў Францыі. Вакальна-харэаграфічнае прадстаўленне "Карміна Бурана" і балет "Жызэль" будуць паказаны ў "Пале дэ Кангрэ" — на найбольш прэстыжнай тэатральнай пляцоўцы Парыжа. На красавік запланаваныя Галандыя і, магчыма, Англія — туды паедзе балет "Спартак". У другой палове мая гледачы Варшавы пабачаць "Рамэо і Джульету" і балет "Страсці". У ліпені і жніўні мяркуецца творчае падарожжа ў Кітай і Тайвань.

А беларускія прыхільнікі харэаграфіі чакаюць у чэрвені сустрэчу з балетам "Раймонда", які будзе ставіць Юры Грыгаровіч.

**Таццяна МУШЫНСКАЯ**

*На здымку: сцэна з балета "Спартак".*

*Фота У. КРУКА*

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Як у храм, іду ў нацыянальны — падыхаць водарам роднай мовы. А тут, аказваецца, як на Прывакзальнай, размаўляюць на "інтэрнацыянальнай аснове". Газеты раздзьмухаюць прадюбілейны жар, крапяць ялеем велікодным. Будзе нацыянальны наш юбіляр, калі стане народны.

•

З Мікалая Глазкова. Маглі б без супрацІўлення, маглі б. Ды плысці па цячэнні — гэта для дохлых рыб.

•

Сусед, прыжмурыўшы вейкі, глядзіць па тэлевізары батлейку. Вялікі аматар. Тэатрал ён ці не тэатрал, калі не ходзіць у тэатр?

•

Як гэта пачалося? Звычайнае палічылі сярэднім. — Калі на тое павялося, — абвясціла адчайна звычайнае, — дык сярэдняе гэта цэнтральнае, цэнтральнае — генеральнае, генеральнае — магістральнае, магістральнае — пуцяводнае, пуцяводнае — усенароднае. І няма ўжо дарогі зваротнае!.. Грамадзяне, будзьце асцярожны, прылічваючы да сярэдніх кожнага.

•

Прамоўца, што згадвае роднае слова толькі каб збэсціць матчыну мову — як уявіць бессаромнасць такую? Проста — прамоўца ў краі кіруе.

•

Пісьмо ў Адміністрацыю. Людзі галасуюць у нас па месцы жыхарства, і гэта спрыяе абдурванню іх і махлярству. Прапаную ўсё арганізаваць па-новаму: галасаваць на прадпрыемствах і ва ўстановах. І хай калектывы спаборнічаюць, хто як выканае норму. А норму даводзіць дырэктывай. Уяўляеце, якая адкрываецца перспектыва! Адно, можа, не надта — давядзецца рэгулярна даваць зарплату. Але хай спачатку прагаласуюць, а тады і тую льготу скасуем.

•

Да мяне заявіліся рэкеціры: чаму скажающа арыенціры — рэкеціры крымінальнікі, рэкеціры вымагальнікі, а чаму у нашым віру заўважаюць адных толькі рэкеціраў? Не мы ўсталёўваем цэны, мы грабім адно бізнесменаў тых, што самі рабуюць. Дык за што ж нас крытыкуюць? Калі хто сапраўдныя рэкеціры, дык гэта рэкеціры ў мундзірах, вось на іх рабіце сатыры. А ёсць яшчэ камандзіры, што бяруць і з тых рэкеціраў, такіх усхваляюць у эфіры. Дзе ж яны, арыенціры?

•

...Пацукалоў дудзеў у дудку часам. Гучэў чароўны спеў ва ўсіх кутках. Калі яшчэ мастацтва вабіць масы спрытнюгі спасцігалі на мышах!

•

— Дзесяцігоддзе буду спаць спакойна, — сказаў уладальнік фінскай фірмы "Коне", калі наведаў Магілёў, — ліфт магілёўскі да змагання не гатоў...

— Утульныя звіняць кабіны "Коне"... у рэзідэнцыях. А ў дамах пры сконе ліфты нашы. Візіту шмат гадоў, ды паўтараецца адно і тое ж зноў — ліфт магілёўскі да змагання не гатоў.

•

Так званы "Беларускі эксперымент": чыгунка без абслугі і аховы. Яшчэ адзін крывавы інцыдэнт, трагедыя на ветцы манеўровай... Дурному чынавенскаму "пачыну" далі прапіску на зямлі айчыннай. Расплата наступіла досыць скора, разлічваемся і сорамам, і горам.

•

— Скажае гісторыю, — скардзяцца на мяне ворагі. — А я не пішу гісторыю, — адказваю ворагам, — я малюю норавы, і гэта ў вашых норавах — шукаць паўсюль ворагаў.

•

Паводле С. Маршака. Акцёр на троне моц увасабляе. А ёсць і іншы бок у медаля, і хай не вабіць рыза з гарнастаем таго, хто толькі грае караля.



ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х. Дунец* | (1932-35) |
| *І. Гурскі* | (1935-41) |
| *А. Куляшоў* | (1945-46) |
| *М. Горцаў* | (1947-49) |
| *П. Кавалёў* | (1949-50) |
| *В. Вітка* | (1951-57) |
| *М. Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я. Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н. Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л. Прокша* | (1969-72) |
| *Х. Жычка* | (1972-76) |
| *А. Асіпенка* | (1976-80) |
| *А. Жук* | (1980-86) |
| *А. Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:** Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,* Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 2332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 2332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985**
**літаратурнага жыцця — 2332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985**
**паэзіі і прозы — 2332-204**
**музыкі — 2332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 2332-462**
**навін — 2332-462**
**мастацкага афармлення — 2332-204**
**фотакарэспандэнт — 2332-462**
**бухгалтэрыя — 2682-660**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ"*

*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4822
Нумар падпісаны 26.12.1996 г.
Заказ 8068/Г

П 123456789101112
М 123456789101112